PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 16 (2188) Год XLIII Беласток 19 красавіка 1998 г. Цана 1 зл.

*Спакойнага і радаснага Велікоднага святкавання ўсім чытачам жадае рэдакцыя „Нівы"*

## У нумары





*Пра Вялікдзень у Праваслаўнай царкве і беларускай абраднасці чытайце таксама на 9 стар.* Фота Міхала МІНЦЭВІЧА

# Служыць Богу і дапамагаць людзям

Ганна КАНДРАЦЮК: ***— Айцец Гаўрыіл, праваслаўе, якое ўвасабляеце, дарыць людзям надзею. За дапамогай да Вас едуць не толькі праваслаўныя. Ваша лячэнне зёлкамі вядомае ў розных кутках Польшчы.***

**Айцец ГАЎРЫІЛ**: Мае наведвальнікі гэта перш за ўсё жыхары Беласточчыны. Цікава, што сярод іх 85 працэнт католікаў. Бываюць таксама паломнікі з Захаду. Нядаўна быў хлапец з-пад Уладзівастока. Прыехаў спецыяльна ў духовых справах. Звязаўся ён быў з сектай, пакланяўся язычніцкім багам і яго апуталі нячыстыя духі.

***— Адкуль Вашы карані?***

Нарадзіўся я ў Вярхлессі на Сакольшчыне. Там хадзіў у пачатковую школу, там рос, там нарадзілася зацікаўленасць зёлкамі.

***— Раскажыце пра гэта.***

У Вярхлессі жыла такая кабета, *раба Божая* Вольга Кішук. Яна была нашай суседкай. Калі я быў малым хлопцам, яна забірала мяне з сабой у лес збіраць зёлкі. Я дапамагаў ёй, прыглядаўся як збіраць, як сушыць, як кроіць, як рабіць саставы на розныя хваробы. Мяне так зацікавіў гэты занятак, што стаў ён марай майго жыцця. Я вельмі хацеў дапамагаць людзям. Так як *раба Божая* Вольга Кішук. Яна лячыла не толькі зёлкамі, але і дапамагала людзям духова. Да яе ішлі з рознымі праблемамі. Напрыклад, як муж з жонкай пасварыўся — прыйдуць да яе, яна іх пагодзіць — выходзяць задаволеныя. Яна была вельмі набожнай жанчынай, спакойнай, памяркоўнай, разважлівай, заўсёды перш падумала чым сказала. Гэтая жанчына была для мяне прыкладам і ўзорам. Пазней, калі я пайшоў у сярэднюю школу, пачаў купляць старыя, яшчэ даваенныя *зелярскія* кніжкі, альбомы. Стаў пісаць лісты, сутыкацца са светам медыцыны. Свайго часу напісаў прафесару Аляксандру Ажароўскаму, аўтару некалькіх тамоў кніжак пра фітатэрапію. Кантакт са светам медыцыны пашыраўся, я пабываў у лабараторыях дзе рабілі лекі, мазі. Дзякуючы гэтаму ўзнік наш супрасльскі манастырскі бальзам.

***— Як Вы апынуліся на Божым шляху?***

— З дзіцячых гадоў я быў самотнікам, любіў цішыню, любіў хадзіць

[*працяг* ☞ 9]



*Айцец Гаўрыіл з Супрасльскага манастыра.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Мы прачыталі

*Według badań ankietowych najwyższy stopień narcyzmu osiągnęli: Marian Krzaklewski, Aleksander Kwaśniewski, Jarosław Kaczyński, Włodzimierz Cimoszewicz, Józef Oleksy, Waldemar Pawlak.*

*Polityka, nr 13*

Даследаванні не праводзіліся сярод беластоцкіх нардэпаў. Цікава хто тут выйграў бы плебісцыт на найвышэйшы ўзровень цынізму. „Нашы” нардэпы зусім не горшыя ў гэтай галіне за „салідарнікаў”.

* * *

*Пра што пішуць людзі прэзідэнту Лукашэнку? За мінулы год Рыгоравіч атрымаў 37 тысяч лістоў. Адрасаваную яму пошту чытаюць упраўдніка ў адміністрацыі і рыхтуюць даведку. Амаль усе аўтары лістаў скардзяцца на жыццё. Адзін піша, што дваццаць гадоў не даюць кватэру, другі не можа жыць без лазні, якая ўжо некалькі гадоў закрытая на рамонт у Гомелі. Відаць, больш няма каму паскардзіцца, што лазня не працуе — вось і пішуць прэзідэнту. А той мусіць кінуць свой любімы спорт альбо думкі пра будучыню Беларуска-расейскага саюза і сам заняцца рамонтам.*

*Навіны, н-р 28*

* * *

*Абвал беларускай валюты з'яўляецца толькі часткай змовы, плана дэстабілізацыі эканамічнай і палітычнай сітуацыі ў рэспубліцы — сказаў прэзідэнт Лукашэнка. На тэрыторыі суседніх дзяржаў, перш за ўсё Польшчы і Літвы дзейнічаюць ужо даўно цэнтры падрыўной працы супраць беларускай дзяржавы. Польшча і Літва актыўна прадстаўляюць свае тэрыторыі для барацьбы беларускай апазіцыі супраць уладаў і народа Беларусі, — сказаў Рыгоравіч.*

*Навіны, н-р 29*

* * *

*Президент страны А. Г. Лукашенко выразил обеспокоенность ростом цен на продукты питания.*

*Народная газета, н-р 62*

А ўсё гэта вынік дзейнасці падрыўнога цэнтра ў Беластоку. Неафіцыйна нам вядома, што тутэйшыя дыверсанты за грошы — вядома чые — рыхтуюцца выклікаць неспрыяльнае для веснавой сяўбы надвор'е ў Беларусі.

* * *

*Змяніліся цэннікі на белую гарэлку ў Беларусі. Цана бутэлькі пры аб'ёме 0,5 л. гарэлкі „Два буслы” 60.100 рублёў, „Рускай” 61.800; „Пшанічнай” і „Маскоўскай” 62.000. Брэсцкая гарэлка „Беларусь”, для вытворчасці якой прымяняецца бярозавы сок — у цане 62.200 рублёў.*

*Звязда, н-р 57*

Адзін долар каштуе ў Беларусі 52.000 рублёў.

* * *

*Mocą dekretu prezydenta Łukaszenki prawosławna i katolicka Wielkanoc pozostaną świętami, ale przestają być dniami wolnymi od pracy. Zyskały taki status Dni Czołgisty i Pracownika Organów Bezpieczeństwa Państwowego. Obok Wielkanocy z kalendarza świąt państwowych wypadł Dzień Konstytucji i Dziady — jesienne święto zmarłych, kiedy opozycja upamiętnia ofiary komunistycznego reżimu. Pozostało święto rewolucji, które Łukaszenko przywrócił w 1995 r. po tym, jak zostało ono zlikwidowane w 1991 r. na fali proklamowanej niepodległości. Wolne od pracy pozostają: Dzień Kobiet, Dzień Zwycięstwa, 1 Maja, Dzień Niepodległości ogłoszony ku czci wyzwolenia Mińska przez Armię Czerwoną w lipcu 1944 r.*

*Gazeta Wyborcza, nr 27*

* * *

*W Polsce coraz nowocześniejsze przepisy chronią coraz prymitywniejszych bandytów. Przez dwa tygodnie przebywał na wolności bandyta zwany komandorem, który strzałem w głowę zamordował spokojnego obywatela w obecności syna ofiary. Z wolnej stopy odpowiadają bandyci wynajęci do pobicia kijami bejsbolowymi mieszkańca Legionowa, który broniąc się upuścił na ziemię niemowlę. Korupcja w sądach i prokuraturze pozwala na bezkarność sprawcom najgroźniejszych przestępstw. Mordercy mają więcej prawa niż rodziny ofiar.*

*Polityka, nr 13*

* * *

*Статыстыку трэба любіць і цаніць. Бо яна па натуры — светлы аптымізм. Па статыстыцы наш дабрабыт „неуклончонно растет”. Статыстыка добразычлівая, але настойліва сцвярджае, што „жить стало лучше, жить стало веселее”. Для гэтага прыводзіцца, напрыклад, лічбы ашаламляльнага росту сярэдняй платы ў цэлым на краіне. У мінулы год сярэдняя плата склала 70 долараў. Нават гаспадарка Украіны трымае гэтую лічбу каля 100 долараў. Але што нам трымацца на тыя еўропы, ці нават украіны. Мы — дзяржава незалежная, дык таго ж суверэнная, нават маем свой уласны бюджэт і сваю ўласную статыстыку.*

*Літаратура і мастацтва, н-р 11*

* * *

*Sposób na zwycięstwo AW „S” w wyborach parlamentarnych polegał na tym, że miała ona być zbiorowym Tymińskim, czyli czymś, czego w rzeczywistości nie było, jakimś mitem. Potem miało być już bardzo konkretnie: rządzenie. Do głowy mi nie przyszło, iż ktoś, kto walczy o przejęcie władzy, nie wie po co to robi i gdzie ta władza leży,* — сказала прафесар Ядвіга Станішкіс, арганізатар і дарадчык АВ „С” падчас выбарчай кампаніі.

*Nowe Państwo, nr 13*

Так ці інакш — Тымінскі пры ўладзе.

# З мінулага тыдня

**Мішэль Жакот** — спецыяліст па пытаннях еўрапейскай сельскай гаспадаркі сустрэўся ў Беластоку з палітыкамі і бізнесменамі. У ходзе спаткання абмяркоўваліся пытанні прыстасавання польскай сельскай гаспадаркі да патрабаванняў Еўрапейскага Саюза. На яго думку, толькі моцныя арганізацыі вытворцаў сельгаспрадукцыі, падобныя на тыя, якія дзейнічаюць у высокаразвітых краінах ЕС, змогуць падчас перагавораў дабіцца найбольш карысных умоў развіцця для польскай сельскай гаспадаркі і далучэння да супольнасці. Такія арганізацыі павінны стварыць самі земляробы і вытворцы сельгаставараў, а не ўрад ці пасобныя ведамствы.

**Больш за 300 чалавек** дэманстравала на Замкавай плошчы ў Варшаве, каб выказаць свой пратэст у справе праекта закона аб аплатах за навуку ў вышэйшых навучальных установах. Студэнты падрыхтавалі транспаранты з лозунгамі „Не — платнай адукацыі” і „Платная адукацыя — фікцыя”. З-пад сталічнага замка дэманстранты перайшлі пад будынак Міністэрства нацыянальнай адукацыі і там паўгадзіны скандзіравалі: „Не — платнай адукацыі”, „Бальцэровіч не плаціў”.

**Усходняя сцяна** не застанецца беднай і можа разлічваць на падтрымку дзяржаўнага бюджэту, — заявіў віцэ-прэм'ер **Януш Тамашэўскі** падчас візіту ў Астралэнцкім ваяводстве. На яго думку, варыянт падзелу краіны на 12 ваяводстваў з'яўляецца найбольш аптымальным для бяднейшых рэгіёнаў Усходняй сцяны, такіх як Беласток, Люблін, Замосць.

**Праект** рэстаўрацыі Супрасльскага манастыра апынуўся ў ліку 20 лепшых айчынных праектаў, якія прымаюць удзел у сёлетнім выпуску Конкурсу Henry Ford National Conservation Awards — аднаго з найбольшых міжнародных конкурсаў па ахове асяроддзя і культурнай спадчыны Еўропы.

**Ян Леанчук**, вядомы літаратар і паэт, атрымаў прызначэнне на пасаду дырэктара Ваяводскай публічнай бібліятэкі ў Беластоку. Перакладае ён на польскую мову вершы „белавежцаў”, між іншым **Надзеі Артымовіч** і **Віктара Шведа**.

**У Белавежы** адбылася сустрэча прадстаўнікоў звыш 20 экалагічных арганізацый з паўночна-ўсходніх ваяводстваў Польшчы, згуртаваных у Пагадненні „Зялёныя лёгкія Польшчы”. Падчас сустрэчы была прадстаўлена праграма і дасягненні дзевяці ваяводстваў, якія дзейнічаюць у ажыццяўленні ідэі „Зялёныя лёгкія”. У ходзе спаткання абмяркоўвалася таксама перспектыўная канцэпцыя аховы Белавежскай пушчы шляхам паступовага яе пераўтварэння ў нацыянальны парк.

**Карта** беларускай часткі Белавежскай пушчы была нядаўна выдадзена супольнымі намаганнямі Заходнебеларускага і Паўночнападляшскага таварыстваў аховы птушак. На ёй на польскай, беларускай, нямецкай і англійскай мовах даецца экалагічная і турыстычная інфармацыя. Прамоцыя згаданай карты адбылася ў Белавежы на штогадовай сустрэчы членаў Паўночнападляшскага таварыства аховы птушак з удзелам прадстаўнікоў падобнага беларускага таварыства і галандскага фонду Natuurmonumenten, які фінансаваў яе выданне.

**У Васількаве** вучні Пачатковай школы № 2 арганізавалі вулічнае шэсце пад лозунгамі „Гарэлка — твой вораг” і „Хто не п'е, той лепш жыве”. Марш — вынік трохмесячных заняткаў з моладдзю па антыалкагольнай прафілактыцы сярод вучняў пачатковых і сярэдніх школ.



# Весткі з Беларусі

**Пазіцыя АБСЕ**

Адзін з лідэраў беларускай апазіцыі Станіслаў Багданкевіч сустрэўся са старшынёю місіі АБСЕ ў Беларусі Гансам Георгам Вікам. Старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі папракаў групу ў маруднасці і пасіўнасці, аднак яе шэф гэтыя папрокі не прыняў. Ён патлумачыў, што Еўропа ўжо мае пэўны вопыт у беларускай сітуацыі — трохбаковай кансультацыі паміж адміністрацыяй прэзідэнта і кіраўніцтвам Вярхоўнага Савета XIII склікання пры ўдзеле еўраструктур. Аднак гэтыя кансультацыі не далі станоўчага выніку і таму спадар Вік лічыць, што больш канкрэтныя будуць перамовы прэзідэнта і апазіцыі пры ўмове, што абодва бакі павінны пайсці на пэўныя ўступкі.

**Запрашэнне ў Еўрапарламент**

У Беларусі знаходзіўся дэпутат Еўрапарламента ад Іспаніі Антоніо Гансалез Трэвіна, які сустрэўся з намеснікам старшыні Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу Уладзімірам Канаплёвым. Спадар Трэвіна ў Еўрапарламенце ўваходзіць у фракцыю Радыкальны еўрапейскі альянс, з'яўляецца членам камісіі па транспарце і турызме. Наладжванне сувязей стала асноўнай тэмай размовы паміж У. Канаплёвым і А. Г. Трэвінам. Падчас сустрэчы спадар Трэвіна запрасіў У. Канаплёва наведаць Еўрапарламент.

**Пластыкавыя карткі**

Старшыня Нацыянальнага банка Пётр Пракаповіч правёў пасяджэнне савета дырэктараў галоўнай фінансавай установы краіны. Члены савета зацвердзілі пілот-праект абслугоўвання грамадзян па безнаяўных разліках на аснове банкаўскіх пластыкавых картак. Мяркуецца, што першапачаткова дадзены праект будзе ўкаранёны ў горадзе Салігорску. У далейшым гэты вопыт плануецца выкарыстаць у маштабе ўсёй краіны.

**Рэформа выхавання**

Школьная рэформа, якая стартуе ў наступным навучальным годзе, закране таксама сістэму выхавання дзяцей і падлеткаў. Ужо сфармуляваны новыя канцэптуальныя асновы выхаваўчай работы. На думку спецыялістаў, даўно вычарпаўся калектыўны метад выхавання. Сучасныя педагогі ўзялі на ўзбраенне іншы прынцып, накіраваны на развіццё асобы. Чым мацнейшая кожная асоба, тым мацнейшы калектыў у цэлым. Акрамя таго спецыялісты выступілі за наладжванне партнёрскіх узаемаадносін школы з сям'ёй.

**Нямецкі партнёр**

Сенат Берліна згадзіўся выступіць партнёрам беларускага боку ў рэалізацыі праекта правядзення летам 1999 года інвестыцыйнага форуму ў Брэсце. Кошт праекта, падтрыманага Еўрапейскай асацыяцыяй малых і сярэдніх прадпрыемстваў, ацэньваецца ў 200 тысяч экю, а ідэя яго правядзення належыць Беларускаму саюзу прадпрымальнікаў, партнёрам якога стануць Брэсцкі аблвыканкам, Бяла-падляскае ваяводства і адна з нямецкіх інвестыцыйных кампаній.

**Бульбяны ліміт**

Ліміт на продаж бульбы і цукру ўстаноўлены ў Магілёве па рашэнні гарвыканкама. Цяпер у адны рукі адпускаецца па 10 кг клубняў і па 2 кг салодкай прадукцыі. Пайсці на такія меры мясцовая ўлада вымушана з-за актыўнай закупкі гэтых прадуктаў харчавання, спекуляцыі і вывазу іх за межы вобласці. Рэалізацыя бульбы ўзрасла ў 3,5 раза, а цана ў магазінах аказалася намнога ніжэйшая чым на базарах горада.

**Адчайны крок**

3 красавіка затрыманы быў 60-гадовы Рыгор Бянчук з вёскі Заспа Рэчыцкага раёна. Знаходзячыся каля рэзідэнцыі прэзідэнта, кінуў ён пакет, у якім знаходзіўся камень і запіска „Бліжэй за 15-20 м не падыходзіць; папярэджваць староннік”. Затым ёй пачаў крычаць: „Не падыходзьце да мяне, я сябе ўзарву!” Пры грудзі трымаў ён шнур і запалкі. Супрацоўнікамі службы бяспекі прэзідэнта Бянчук быў затрыманы. Пры ім было самаробнае выбуховае прыстасаванне з дзвюх тратылавых шашак нямецкай вытворчасці часоў II сусветнай вайны, вогнеправодная шнура і капсуля дэтанатара. Свой учынак растлумачыў ён імкненнем прыцягнуць увагу кіраўніцтва рэспублікі да фактаў безгаспадарнасці і злоўжывання мясцовых улад.

# Пайшла ў Польшчу „Чарамшына"

У панядзелак 6 красавіка г.г. першая праграма Польскага тэлебачання ў рамках цыкла „U siebie" паказала перадачу пра вядомы ў нас калектыў „Чарамшына". Члены калектыву расказалі пра як жа тыповыя ў нас, у абстаноўцы меншасці, праблемы адносін да культурнай спадчыны ад сваіх продкаў, да нацыянальнага самавызначэння, да мовы, пра пошукі свайго месца на культурнай карце. Вельмі характэрнай для палескага культурнага арэалу была тут ідэнтыфікацыя з „тутэйшасцю" з „рускім" ухілам без выразнага ўжо самавызначэння ў яго межах. Дарэчы, гэта спадчынная прыкмета многіх з нас, бо продкі выразна не вызначылі нам нацыянальных арыенціраў; члены калектыву адклікаліся менавіта на разгубленасць у гэтых каардынатах сваіх бацькоў або дзядоў. Толькі адна дзяўчына сказала, што ўдалося ёй дабіцца ад сваёй бабулі адказу на пытанне пра нацыянальную мову: пасля настойлівага допыту, якая гэта мае быць родная мова, бабуля адказала — „беларуская".



Перадача спадабалася мне сваёй аўтэнтычнасцю: не было тут вывучаных загадзя адказаў, былі затое дылемы характэрныя для многіх з нас. Цешыла тое, што без накінутых уладамі ці модай ярлыкоў чаромхаўская моладзь сама разглядаецца за выяўленнем голасу сваёй „тутэйшай" душы. Як жа роднымі былі паказаныя нашы хаты, нашы зарастаючыя буйнаю, сакавітаю травой панадворкі і наша застолле з традыцыйнымі напоямі і песнямі; гэтым разам на ганаровым месцы стаяла „W Polskę idziemy".

**(ав)**

*Фота Міры Лукшы*

# Яны прапагандуюць нашы ваколіцы

Добра працуе аддзяленне Польскага турыстычна-краязнаўчага таварыства (ПТТК) у Гайнаўцы. Існуе яно ўжо 35 гадоў. Старшынёю з'яўляецца Станіслаў Межвінскі, намеснікам старшыні — Рыгор Сельскі і сакратаром — Анна Крышань.

Гайнаўскае ПТТК прапагандуе перш за ўсё Белавежскую пушчу, адпачынак у Белавежы, Гайнаўцы ды ў навакольных пушчанскіх вёсках, а таксама музеі: прыродазнаўчы і лясны ў Белавежы ды помнікаў матэрыяльнай беларускай культуры ў Гайнаўцы, гайнаўскі праваслаўны Сабор св. Тройцы ды запаведнік зуброў. Яно арганізоўвае пешыя і веласіпедныя экскурсіі пушчанскімі шляхамі і на Семяноўскае возера, а таксама ляснoй вузкакалейнай чыгункай з Гайнаўкі ў Тапіла. Улетку і зімою наладжвае вогнішчы і кулігі (напрыклад зімняе катанне на санках, а ўлетку — дарожкай-пралёткай).

Да актыўных экскурсаводаў ПТТК належаць м.інш. Ян Анціпаў, які ўзначальвае гуртком з 16 гайнаўскіх праваднікоў, Вітальд Татарчык, Аляксандр Харкевіч, Сяргей Харкевіч, Пётр Карпюк і Ірэна Барысюк.

**(гаі)**



*За рулём вузкакалейкі — нібы Міколка Паравоз В. Цімашэвіч.* Фота А. СМЫКЛЯ

# Мясцовасці Чаромхаўскай гміны

*(заканчэнне; пачатак у 12 нумары)*

**Баброўка** — вёска непадалёк Зубач, ля самой мяжы з Беларуссю. У 1994 годзе жыло ў ёй 152 чалавекі, а цяпер налічвае ўжо толькі 121 жыхара.

**Яшэвічы** — раскінутая на паўднёвы захад ад Зубач вёска ў выглядзе хутароў. У 1994 годзе налічвалі яны 61, а зараз 29 жыхароў. Перадавым земляробам лічыцца тут Мар'ян Качмажык.

**Апака-Вялікая** — невялікая прыгранічная вёска на поўначы гміны. У вёсцы знаходзіцца праваслаўная капліца і бібліятэчны пункт. Жыве ў ёй 45 асоб. Каля 2 км на поўнач ад Апакі, ля самой граніцы, знаходзіцца невялікі пасёлак **Дуброва**, а ў адлегласці кіламетра на паўднёвы захад — невялікае сяло **Гайкі**.

**Пагулянка** — невялікая вёсачка пры мяжы з Кляшчэлеўскай гмінай, у 2 км ад дзяржаўнай граніцы з Беларуссю. Перадавым земляробам лічаць тут Цэліну Левандоўскую. Вёска налічвае 47 жыхароў.

**Полаўцы** — прыгранічны пасёлак, распаложаны ў адлегласці 1 км на поўдзень ад Чаромхі. Першая пісьмовая згадка паходзіць ад 1560 года. Назва праўдападобна паходзіць ад наймення племя стэпавых качэўнікаў. Жыхары вёскі на фоне навакольнага насельніцтва вылучаюцца „больш мяккай" мовай. У вёсцы знаходзіцца капліца Пакрова Божай Маці. У канцы 1993 года адкрыты тут быў пагранічны пераход з Беларуссю. Цяпер у Полаўцах жыве 18 чалавек.

**Беразышча** — распаложаная каля 2 км на паўднёвы захад ад гміннага цэнтра вёска. Перадавым земляробам лічыцца тут Міхал Русін. У вёсцы жыве 50 чалавек. У адлегласці 1 км на захад прысела ля чыгуначнай лініі малая вёсачка **Боркі**.

**Вулька-Тэрахоўская** — невялікая вёска, распаложаная на ўсход ад Чаромхі, кіламетр ад дзяржаўнай граніцы. Вёска ўпамінаецца ў дакументах XVI-II стагоддзя і належала маёнтку Тэрэхі. На могільніку знаходзіцца капліца св. Анны. У 1942 годзе гітлераўцы расстралялі 11 жыхароў за дапамогу савецкім салдатам. Брацкая магіла знаходзіцца ў месцы расправы ў цэнтры вёскі.

У вёсцы працуе фальклорны калектыў пад кіраўніцтвам Веры Рошчанка. Перадавым земляробам лічаць тут Галену Назарук. У 1994 годзе вёска налічвала 180, а цяпер — 138 жыхароў. У адлегласці аднаго кіламетра на паўднёвы ўсход ад Вулькі распаложаны невялікі пасёлак **Хлевішчы**. Паміж гэтымі вёскамі знаходзіцца праваслаўная капліца.

**Міхал Мінцэвіч**

# Мутная вада

30 сакавіка г.г. у Орлі адбылася XXII сесія Гміннай рады. Галоўнай справай, якая абмяркоўвалася на пасяджэнні, быў бюджэт на гэты год. Радныя правялі таксама галасаванне ў справе адклікання войта гміны і таму, мабыць, на сесіі прысутнічалі ўсе шаснаццаць радных і ўпершыню былі запрошаны солтысы.

Праект бюджэту зачытала скарбнік Аляўціна Іваноўская. Плануецца, што гмінныя даходы складуць суму 3 115 774 зл., а выдаткі — 3 240 857 зл. Больш за 75% гміннага бюджэту будуць накіраваны на тры дзялянкі: асвету — 1 130 тысяч зл., адміністрацыю — 660 тысяч зл. і інвестыцыі — 702 тысячы зл. У інвестыцыйных планах прадугледжваецца пабудаваць 4 700 м асфальтавых дарог, завяршыць будову жылога будынка пры школе і мадэрнізацыю кацельні, пракласці водаправод у Шчыты і купіць аўтамашыну для пажарнікаў з Рыгораўцаў.

Нечаканасцю было з'яўленне солтысаў, якія раней на сесіі не запрашаліся. Гэтым разам войт ушанаваў солтысаў не толькі самім запрашэннем, але і выплатай прадстаўнікам вёсак грашовых прэмій. Задаволеныя солтысы падчас перапынку пакінулі сесію і раз'ехаліся па дамах.

Калі старшыня рады адчытаў прапанову адклікаць войта, той выказаўся коратка: „Кожнаму можна прышпіліць кветку да кажуха". Пытанні і абвінавачанні ў адрас войта пасыпаліся толькі з боку арлянскіх радных. Славамір Сахарэвіч гаварыў, што войт ігнаруе радных і не адказвае на іхнія запыты. Пакрытыкаваў ён таксама інвестыцыйныя „дасягненні", між іншым, дарогі ў апусцелыя вёскі, бяздзейную ачышчальню і звярнуў увагу на рэгрэсіўныя змены ў гміне. Мікалай Рэнгайла таксама абвінавачыў войта ў ігнараванні радных і скрыванні ад іх некаторых інфармацый, напрыклад, пра свае заробкі, украдзены „Фольксваген" ці адміністрацыйныя пакаранні. Аляксандр Шыманскі пытаў, чаму радным не прад'яўляецца пратакол з папярэдняй сесіі. Паводле яго, пратаколы пішуцца пад дыктоўку і не адпостроўваюць сапраўднага ходу сесіі. Такую сітуацыю параўнаў ён да мутнай вады, у якой гмінным чыноўнікам выгадна плаваць. Радны звярнуў увагу на супярэчныя выказванні войта, які цяпер гаворыць, што п'яным на рабоце быў толькі раз, а ў радыёрэпартажу сам прызнаўся, што п'яным быў двойчы. На заканчэнне Аляксандр Шыманскі прыпомніў радным, што яны павінны дбаць пра справы гміны, а не затушоўваць непрыстойныя паводзіны кіраўніка гміннай адміністрацыі.

Войт Міхал Іванчук не адказаў на закіды радных. Не хацеў, а можа яму стала няёмка, а можа гарэў ад сораму? Затое ў яго абарону выступіў радны Ян Рыдз, работнік СКРа, які сказаў: „Калі войт і выпіў, то нічога дрэннага". Старшыня рады Яўген Зінкевіч заявіў: „Не асуджайма мінулага. Давайце галасаваць, гэта гістарычны момант". Мікалай Рэнгайла дадаў: „Гэта сорам!"

Годнасць Арлянскай гміны баранілa толькі 6 радных (у тым ліку 4 з Орлі), а 10 — атаясаміліся з войтам.

**(мм)**

# Якім быць Музею?

4 красавіка г.г. у Беларускім музеі ў Гайнаўцы адбылася сустрэча, на якой упершыню публічна абмяркоўваліся прапановы звязаныя са сцэнарыем працы Музея.

Ужо раней доктар Уладзімір Юзвюк даслаў праекты, а ў час спаткання былі яны ахарактарызаваны, сцэнарыя этнаграфічнай экспазіцыі будучага Музея, у якіх расказвае ён, між іншым, пра розныя прылады працы і заняткі вяскоўцаў. Намеснік старшыні ГКПМ Ян Хіліманюк пазнаёміў прысутных з пісьмовымі заўвагамі наконт праектаў доктара Юзвюка. Настаўніца Нэля Шчука (этнограф па адукацыі) сказала, што на падставе прапаноў доктара Юзвюка нельга яшчэ стварыць сцэнарый, але можна выкарыстаць іх у далейшых працах. Спадар Уладзімір Гацута (музейнік з Варшавы) вельмі дэталёва апісаў абрады і прадметы, на якія трэба звярнуць увагу ствараючы Музей, адабраючы адначасна вышэйўспамянутыя праекты. Пётр Байко звярнуў увагу на патрэбу хуткага папаўнення экспанатаў тымі, якія яшчэ можна раздабыць. Ева Мароз (музейнік па адукацыі) выказалася наконт абсталявання новых музеяў, іх пастаянных і часовых выставак, неабходных пры стварэнні добрага сцэнарыя прац. Прафесар Сяргей Габрусевіч з Гародні выказаўся супраць толькі пастаянных выставак, за спалучэнне мінулага з сучаснасцю.

Найбольш дакладна прадставіў сваю канцэпцыю працы Музея стваральнік музейнай галерэі мастак Віктар Кабац.

— Нельга паўтараць таго, што ў іншых музеях Падляшша. Экспанаты трэба паказваць так, каб можна было іх мяняць, — гаварыў Кабац. — Нельга выдучаць толькі гістарычныя, этнаграфічныя ці іншыя залы, што зараз ліквідуюць вядомыя музеі. Мінулае трэба спалучаць з сучаснай культурай, мастацтвам. Можна задумацца над тым, каб вылучыць чатыры-пяць аддзелаў. У аддзяленні звязаным з зямлёю можна паказаць і карту Беларусі з гісторыяй краіны, але перад усім паказваць Беласточчыну і працы нашых людзей культуры і мастацтва, хаця б і „Загоны" Лявона Тарасэвіча, калі б ён згадзіўся. У частцы звязанай з домам можна было б паставіць элементы старой хаты і толькі там вешаць нашы іконы ці ручнікі. Нельга нічога выконваць з новых матэрыялаў. Нават падстаўкі павінны быць са старых дошак. У аддзелах, звязаных з абрадамі ці вядомымі асобамі, якія займаліся беларускай літаратурай, культурай ці гісторыяй, павінны быць спасылкі на канкрэтныя весткі. Музей павінен быць жывы. Павінны прыязджаць сюды пісьменнікі, гісторыкі, а экспанаты ўвесь час трэба мяняць. Этнаграфічныя экспанаты павінны знаходзіцца побач сучасных карцін, якія можна было б і прадаваць. Толькі такі музей мае шанц звярнуць на сябе ўвагу турыстаў і выконваць станоўчую ролю ў беларускім асяроддзі Беласточчыны.

**(лм)**

# У Камісіі аб меншаснай перыёдыцы

У апошні дзень сакавіка ў Варшаве адбылося пасяджэнне сеймавай Камісіі нацыянальных і этнічных меншасцей, прысвечанае пытанням функцыянавання, фінансавання і распаўсюджвання перыядычных меншасных выданняў, якія атрымоўваюць датацыю з бюджэту Міністэрства культуры і мастацтва. Як паведаміў выконваючы абавязкі дырэктара Дэпартамента культуры нацыянальных меншасцей гэтага міністэрства Ежы Завіша, яго ўстанова фінансуе сама менш адно перыядычнае выданне кожнай нацыянальнай меншасці і падтрымоўвае іншыя найменні. У структуры бюджэтных выдаткаў на непольскую культуру выдаткі на перыядычныя выданні складаюць 62% і сёлета на гэту мэту будзе адведзена 2 млн. 105 тыс. зл. Цяпер пры бюджэтнай дзяржаўнай падтрымцы выходзяць 33 перыядычныя выданні. На Беласточчыне датацыямі карыстаюцца „Ніва", „Часопіс", „Беларускі каляндар", „Фос", „Białoruskie Zeszyty Historyczne", „Przegląd Prawosławny", „Над Бугом і Нарвою" ды „Rrom p-o Drom".

У ходзе пасяджэння рэдактары паасобных часопісаў давалі інфармацыю аб сваіх выданнях. Рэдактар „Przeglądu Prawosławnego" Яўген Чыквін пытаў, чаму Міністэрства культуры і мастацтва лічыць ягоны штомесячнік рэлігійным выданнем, калі палова матэрыялаў датычыць грамадска-культурных спраў. Сказаў ён, што „Przegląd Prawosławny" з'яўляецца звышнацыянальным (трохмоўным) штомесячнікам і прапанаваў уключыць яго ў пастаяннае фінансаванне Дэпартаментам культуры нацыянальных меншасцей. Гэтую прапанову падтрымаў член Камісіі пасол Сяргей Плева.

Некаторыя рэдакцыі карыстаюцца фінансавай падтрымкай духовай бацькаўшчыны. Аднак не заўсёды такая дапамога мае бескарыслівы характар і адбываецца бесканфліктна. Рэдактар нямецкага штомесячніка „Hoffnung" з Катавіцаў сказаў, што Нямеччына дапамагае ім толькі тады, калі пра яе пішацца ў станоўчым, некрытычным тоне. У такой сітуацыі прасіў ён паважліць міністэрскую датацыю штомесячніку, каб выйсці з-пад не толькі фінансавай залежнасці ад вялікай бацькаўшчыны.

Члены Камісіі дайшлі да вываду, што не атрымалі поўнай інфармацыі пра спосаб выкарыстоўвання грошай, прызначаных на меншасны друк. І хаця гаварылі яны, што гэта невялікія грошы, забавязалі Дэпартамент культуры нацыянальных меншасцей распрацаваць больш дэталёвую, аналітычную інфармацыю.

**Віталь Луба**

# Гайнаўка ў Еўропе

У Польшчы ідзе цяпер бурлівае змаганне за і супраць новага адміністрацыйнага падзелу краіны. Некаторыя палітыкі вельмі няскмела гавораць, што патрабуецца гэтага ад Польшчы перад яе ўваходам у г.зв. еўрапейскія структуры. Іншыя зараз вельмі галасна крычаць, што не дазволяць дзяліць дзяржаву паводле нямецкіх пажаданняў. „Propozycje podziału administracyjnego Polski są zgodne z interesami Niemiec, w szczególności z planem tzw. marszu na Wschód (Drang nach Osten)", — пішацца ў лістоўцы, падпісанай сенатарам Ядвігай Стакарскай, старшынёй Stronnictwa Narodowego Раманам Гертыхам і вядомым дзеячам „Салідарнасці" з Урсуса Зыгмунтам Вжодакам. Лістоўку раздавалі маладыя людзі каля чырвонага касцёла ў Беластоку. Сярод тых, што адчуваюць патрэбу правядзення адміністрацыйнай рэформы таксама няма згоды. Рашуча пратэстуюць улады тых ваяводстваў, якія неўзабаве могуць стаць паветамі. Мабілізуюць яны грамадскасці, пакуль яшчэ ваяводскіх гарадоў, у абароне іх цяперашняга юрыдычнага стану. Дэманструюць тады жыхары ўсялякіх Кашалінаў, Аполяў, Кельцаў, Бельска-Бялых, даказваюць, што рэформа страціць сэнс, калі іх горад не будзе сталіцай ваяводства.




Неадназначна ставяцца да рэформы палітыкі паасобных партый і ніхто не ведае, дзе канчаюцца іх палітычныя рацыі і пачынаецца палітычны бізнес. Найбольш паслядоўна паводзяць сябе хлопцы з ПСЛ, якія ведаюць, што ў выпадку рэформы патрацяць шмат прыбытковых пасад. Яны менавіта прыдумалі рэферэндум, у якім люд мае ацаніць перш за ўсё эканамічны вынік планаваных зменаў. Дэмагогія пра пагрозу новага падзелу для нацыянальна-рэлігійнага характару Польшчы можа быць вырашальнай у такім галасаванні. Немагчыма акрэсліць як у сапраўднасці ставяцца да прапанаваных зменаў дзве найбольшыя сілы на польскай палітычнай сцэне — АВС і СЛД. Сярод салідарнікаў шмат актыўных працоўнікаў якіх-небудзь зменаў, якія спасылаюцца на ідэалагічныя рацыі, а перш за ўсё на пагрозу для польскасці з боку ліберальнай Еўропы. СЛД было за новым адміністрацыйным падзелам, калі трымала ў руках дзяржаўную ўладу, але ў кааліцыі з ПСЛ не магло нічога зрушыць з месца. Цяпер гэтая партыя памяняла свае пазіцыі наконт рэформы і выказваецца разам з ПСЛ і крайнімі нацыяналістамі за рэферэндумам. Зразумела, што цяпер СЛД не мае ніякага інтарэсу, каб падтрымоўваць новы адміністрацыйны падзел, таму што крэслы ваяводаў, як і ўсіх вышэйшых ураднікаў, будзе раздаваць палітычная канкурэнцыя. Таму, з іх пункту гледжання, лепш пачакаць да наступных выбараў, якіх вынік безумоўна будзе карысны для партыі Мілера.

Большасць грамадзян краіны ў сапраўднасці не ведае навошта гэтыя змены, якая карысць будзе з падзелу дзяржавы на 12 ваяводстваў замест на 49; чаму іх не можа быць 15 ці, напрыклад, 8. Больш інтэлігентныя пытаюцца, чаму не праводзіцца рэформа карумпаванай службы аховы здароўя, карыкатурна беднай асветы, служб аховы парадку, юстыцыі, колькі можна дзеля палітычных мэтаў трымаць нерэнтабельныя шахты, трактарныя фабрыкі, металургічныя заводы. Рэформы спыніліся недзе 5 гадоў таму і ніхто не мае ахвоты іх далей праводзіць. Кожная група, якая прыходзіць да ўлады — ад камуністаў да салідарнікаў — думае зараз пра наступныя выбары і не хоча нічога рабіць, што магло б пашкодзіць ствараць новыя ілюзіі грамадству. Адміністрацыйная рэформа магла б стварыць заслону для нейкага лагічнага ўпарадкавання спраў у галіне асветы, аховы здароўя і г.д. Але ніхто пра гэта не думае. Палітычныя кланы на ўсё гэта глядзяць выключна з улікам партыйных і сваіх прыватных інтарэсаў.

Прапанаваны новы адміністрацыйны падзел дае беларусам шанц быць большасцю ў двух паветах — Гайнаўскім і Бельскім. Тэарэтычна ўзнікаюць неабмежаваныя магчымасці развіцця беларускай культуры, асветы, а таксама гаспадаркі. У г.зв. Еўропе вельмі шануецца такія рэгіянальныя асаблівасці, а прытым — па іншых прычынах — ёсць нават пажаданы нейкі беларускі дэмакратычны энклаў побач лукашэнкаўскай Беларусі. Аднак для такога культурнага і эканамічнага адраджэння патрэбна была б воля нашага люду і яго дзеячаў, але перш за ўсё патрэбны цуд, каб беларусы перасталі баяцца быць сабою. Сёння таксама законы дазваляюць, каб у Нараўцы ці Кляшчэлях вялося навучанне на роднай мове, а дэмаграфічны беларускі патэнцыял Гайнаўкі дазваляе, каб горадам кіравалі людзі зацікаўленыя падтрымкай культуры тубыльцаў. Дэмаграфічны патэнцыял тэарэтычна дазваляе таксама беларусам мець трох сваіх паслоў. Дзеячаў СЛД-БГКТ Сычэўскага і Плеву, хаця часам прыкідваюцца прадстаўнікамі беларусаў, цяжка такімі лічыць, бо галасавала на іх толькі па паўтары тысячы выбаршчыкаў. З'яўляюцца яны пасламі дзякуючы рашэнню кіраўніцтва іх партыі.

Нягледзячы на тое, ці беластоцкае ваяводства будзе такое як цяпер, ці дасягаць будзе перыферыі Малкіні, ці ў Гайнаўскім і Бельскім паветах большасць жыхароў складаць будуць беларусы, вялікіх зменаў у галіне нашай культуры і асветы не адбудзецца. Не відаць тут фактараў, якія паўплывалі б на волю беларускага люду бачыць сваіх дзяцей і ўнукаў беларусамі. У брусельскіх еўрапейскіх адміністрацыйных установах тым часам сапраўды плануецца грашовая дапамога на лесанасаджэнні на „ўсходняй сцяне" Польшчы.

**Яўген Мірановіч**

# Фінальныя змаганні алімпійцаў

**3 красавіка 1998 года ў Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання імя Б. Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім адбыліся цэнтральныя элімінацыі IV Алімпіяды беларускай мовы, у якіх прыняло ўдзел пятнаццаць пераможцаў раённага этапу.**

Вучняў абодвух беларускіх ліцэяў, іх дырэктараў, настаўнікаў, госця з Гародні прафесара Сяргея Габрусевіча і арганізацыйнага кіраўніка спадарыню Барбару Чыжэўскую прывітаў намеснік старшыні Арганізацыйнага камітэта Алімпіяды доктар Баляслаў Хмялінскі. Арганізатарам Алімпіяды была Кафедра беларускай мовы Варшаўскага універсітэта і Таварыства Польшча-Беларусь.

Перад першым этапам старшыня журы спадарыня Тамара Філіпчынская пазнаёміла ліцэістаў з трыма тэмамі пісьмовых прац.

1. Рамантычныя ідэі ў жыцці і творчасці Яна Баршчэўскага, Яна Чачота і Вінцука Дуніна-Марцінкевіча.
2. Сацыяльная і палітычная крытыка царскай сістэмы ў творчасці Францішка Багушэвіча і Кастуся Каліноўскага.
3. Пазітывісцкія канцэпцыі ў беларускай літаратуры перыяду „Нашай нівы”.

Калі вучні на паўтары гадзіны адключыліся ад сяброўскіх размоў і ўзяліся за пісьмовыя працы, журы, у якім старшыні дапамагалі настаўніца беларускай мовы з бельскай „тройкі” спадарыня Валянціна Бабулевіч і былы дырэктар Гайнаўскага белліцэя спадар Аляксандр Іванюк назіралі, каб працы ліцэістаў былі самастойнымі. Вучні па-рознаму ўспрынялі падрыхтаваныя тэмы прац. Былі заўвагі, што няма нічога звязанага з сучаснай літаратурай, на якую вучні звярталі ўвагу ў падрыхтоўцы да алімпіяды. Хаця творчасць Яна Чачота і Яна Баршчэўскага ў ліцэях разглядаецца не так ужо і дакладна, Анна Васілюк рашылася пісаць на першую тэму і рэзультат быў выдатны. За працу атрымала максімальную колькасць балаў. Некалькі асоб пісала пра пазітывісцкія канцэпцыі нашаніўскага перыяду, але найбольш алімпійцаў крытыкавала царскую сістэму.

Калі вучні закончылі пісаць, пачаліся вусныя адказы. Кожны алімпіец адказваў паводле аднаго пытання, якое выцягнуў разам з білетам. Расказвалі пра беларускую літаратуру ад часоў адраджэння да сучаснасці, але былі і вольныя тэмы. Традыцыйна ўжо паявіліся Францыск Скарына, Кастусь Каліноўскі, Элаіза Пашкевіч, Максім Багдановіч, Якуб Колас, Янка Купала, Кандрат Крапіва, Міхась Лынькоў, Іван Мележ, але былі і пытанні, якія тычыліся сучаснай беларускай літаратуры, эміграцыйных шэдэўраў і творчасці „белавежцаў”.

— На маю думку, пытанні не павінны быць такімі канкрэтнымі, але быць так пастаўленымі, каб вучні маглі свабодна выказацца наконт шырэйшага матэрыялу па літаратуры, гісторыі, каб маглі адклікацца да сучаснай літаратуры, — заявіла настаўніца Гайнаўскага белліцэя, спадарыня Вольга Сянкевіч.

Пасля праверкі пісьмовых прац і рассакрэчання іх можна было падвесці канчатковыя рэзультаты змаганняў. Дзве ўдзельніцы атрымалі максімальную колькасць балаў як за пісьмовыя працы (па 60), так і за вусныя адказы (па 40). Два раўнапраўныя першыя месцы атрымалі Івона Хмур з Бельска-Падляшскага, якую рыхтавала настаўніца Зінаіда Дземянюк і Аня Васілюк з Гайнаўкі, якую падрыхтавала спадарыня Вольга Сянкевіч. На другім месцы апынуўся Юрка Грыгарук з Бельскага ліцэя (95 балаў), якога настаўніцай беларускай мовы з'яўляецца Яўгенія Таранта. Трэцяга месца з дапамогай настаўніцы Вольгі Сянкевіч дабілася Ева Аксянцюк (88 балаў). Апрача згаданых алімпійцаў лаўрэатамі сталі: Іаанна Масайла і Ігар Іванюк з Гайнаўкі (па 80 балаў, настаўніца Вольга Сянкевіч) і Іаанна Якубовіч з Бельска (80 балаў, настаўніца Зінаіда Дземянюк). Восем іншых алімпійцаў з Гайнаўшчыны і Бельшчыны сталі фіналістамі.

Усе ўдзельнікі будуць звольнены з экзамену на атэстат сталасці па беларускай мове, а сенаты розных навучальных установаў прадбачылі лаўрэатам і фіналістам льготы на ўступных экзаменах (многія навучальныя ўстановы будуць прымаць лаўрэатаў на некаторыя напрамкі ўвогуле без экзаменаў, аб чым мы ўжо пісалі).

**Аляксей Мароз**

# Сустрэча

Калі прыходзіць час, маладыя птушкі пакідаюць роднае гняздо і пачынаюць вучыцца самастойнага жыцця. Таксама малады чалавек пакідае сям'ю, родную хатку і выходзіць у свет. Нялёгка прывыкнуць да новых умоў далёка ад бацькаўшчыны.

Некалькі месяцаў таму і мяне лёс кінуў на глыбокія воды жыцця. Я пачала жыць і вучыцца ў Варшаве. Я, народжаная ў маленькай падляшскай вёсцы, вымушана была навучыцца жыць у агромным, амаль двухмільённым, горадзе. Адзін Бог ведае як мне было цяжка. Усё тут было новае, незнаёмае. Аднак, з часам, я да ўсяго прывыкла, але як толькі была ў мяне магчымасць, я ехала да бацькоў. Усё тужыла, чагосьці мне не хапала (і не ў грашах тут справа). Цягнула мяне да сваіх людзей і знаёмых куткоў, але найбольш хацелася пачуць родную мову. Я ніколі не думала, што можна так тужыць па беларускім слове.

І аднойчы здарыўся ў горадзе над Віслай цуд. Прынамсі я гэта так адчула. Некалькі дзён таму я першы раз адчувала сябе тут амаль як дома. У нядзелю, 22 лютага, сяброўкі намовілі мяне пайсці на дыскатэку. Я згадзілася там выбрацца толькі таму, што арганізавалі яе студэнты Усходнеславянскай філалогіі Варшаўскага універсітэта. Я лічыла, што сустрэну кагосьці знаёмага, кагосьці ад сябе, якісьці вядомы твар з часоў ліцэя.

Ужо на самым пачатку падышоў да нас хлопец і запытаў, ці мы не з Беласточчыны. Калі мы ўжо дагаварыліся, ён пачаў гаварыць з намі па-беларуску. Я ніколі не думала, што калі-небудзь так мяне ўцешыць родная гаворка. Зараз знайшліся іншыя выпускнікі беларускіх ліцэяў з Бельска і Гайнаўкі. Пры піве мы гаварылі аб усім тым, аб чым толькі могуць гаварыць маладыя людзі. Найважнейшае было тое, што мы гаварылі на роднай мове. Я амаль забылася, што гэта Варшава. Пасля мы дасталі гітару, сабраліся ўсе разам і пачалі спяваць песні. Нашы беларускія песні. Спачатку крыху дзіўна іншыя на нас глядзелі, а пасля пачалі гуляць разам з намі. Працягвалася гэта амаль да самай раніцы.

Гэта быў мой найпрыгажэйшы і найшчаслівейшы дагэтуль дзень у Варшаве і глыбока веру, што не апошні. Дадому я вярталася стомленая, але шчаслівая. Я паверыла, што Беларусь жыве. У той час, калі беларуская дзяржава памірае, яна астаецца жывая ў нашых сэрцах, сэрцах маладых беларусаў у Польшчы.

На другі дзень мае сябры з курса з вялікім зацікаўленнем пыталі ці я беларуска, а калі так, то адкуль я так добра ведаю польскую мову. Я тлумачыла, што на Беласточчыне жыве многа беларусаў. Яны аб гэтым чулі, але думалі, што гэта эмігранты з Беларусі, людзі якія цяпер або дзесьці ў мінулым адтуль уцяклі. Некаторыя сумняваліся ў тым, што беларусы жывуць тут ад вякоў.

Я ніколі б і не падумала, што на першы погляд звычайная студэнцкая дыскатэка, якіх тут штодзённа некалькі, можа адмяніць маё жыццё ў Варшаве.

Я сустрэла сяброў, якія маюць або мелі падобныя праблемы. Цяпер ведаю, што я не адна. Акрамя гэтага, мае сябры з курса пачалі цікавіцца беларускай меншасцю і яе культурай, а я з'яўляюся экспертам у гэтай справе.

Папраўдзе толькі цяпер і тут я пераканалася, як вельмі важная для мяне мая Радзіма і мая тоеснасць.

А гэтую тоеснасць няцяжка згубіць у горадзе такім, як Варшава. Лягчэй, напэўна, прывыкаць да новых умоў сярод „сваіх” людзей, разам з імі. І так думаю не толькі я, многія мае сябры згаджаюцца з гэтым поглядам.

Можа людзі ў нас, на Беласточчыне, не да канца ўсведамляюць сабе, чым ёсць наша беларускасць. А сапраўды гэта вялікае шчасце і гонар быць беларусам. Помніце аб гэтым!

**Катажына Аўсяйчук**

# Споведзь Ларысы Геніюш

**7 красавіка мінула 15 гадоў з дня смерці Ларысы Геніюш. Вялікая беларуская паэтка не дачакалася дня, якога выглядала цэлае сваё жыццё — каб прыняць грамадзянства беларускай дзяржавы. Памерла яна як грамадзянка Чэхаславакіі, краіны, з якой гвалтам вывезлі яе саветы ў 1948 годзе.**

Дзесяць гадоў пасля зыходу паэткі, у Мінску, сталіцы фармальна ўжо незалежнай Беларусі, былі выдадзены яе ўспаміны. У выдавецтве „Мастацкая літаратура” далі ім загаловак *Споведзь**. Два гады пасля, пры лукашыстах, выданне гэтых успамінаў было б немагчымым. Ларыса Геніюш, здаецца, пісала іх без веры ў хуткае выданне. У час панавання генсека Брэжнева нішто не прадказвала, што сітуацыя можа настолькі адмяніцца, што шчырую споведзь паэткі, як бы перад самой сабой, выпусціць рэжымнае выдавецтва. Ад 1990 года гэтыя ўспаміны друкаваліся ў адрэзках у часопісе „Маладосць”.

Успаміны Ларысы Геніюш гэта не толькі расказ пра жыццё аўтаркі, але таксама, а можа перш за ўсё, аповед пра лёс беларускай інтэлігенцыі ў час зменлівых акупацыйных сістэм на Беларусі. Не ўсе рускія, немцы, палякі былі злачынцамі, не ўся беларуская інтэлігенцыя заслужыла на пашану — пра гэту праўду сведчыць у сваёй „споведзі” паэтка. Аднак гаворыць таксама, што не беларусы катавалі палякаў пад Кельцамі, не беларусы расстрэльвалі рускіх пад Смаленскам. Гэта суседзі прыйшлі няпрошаныя ў беларускую хатку. „Умелі біць палякі, умелі яшчэ падвешваць, ліць газу ў нос, гэту культуру добра асвоілі прававерныя каталікі”. Ларыса Геніюш у родных сваіх Жлобаўцах ці Зэльве, дзе выйшла замуж, не раз бачыла ахвяры пабояў польскай паліцыі, прымала ўдзел у паховінах маладых людзей, якія трапілі ў рукі прадстаўнікоў дзяржаўнага апарату. Аб'яднанне беларускіх зямель у 1939 г. не выклікала таксама радасці беларускай патрыёткі. Пра ўваход саветаў піша: „Тады было агульнае азвярэнне, насалода з мукаў чалавечых і канец свету. Так недзе наступаў некалькі вякоў таму Чынгісхан на славянскія землі. Сумнае было злучэнне зямлі нашай, неблагаслаўленнае добрай справай”. У Прагу, дзе тады прабывала Ларыса Геніюш, дайшлі весткі пра вынішчэнне бальшавікамі яе сям'і. Шчыра піша тады: „Жудасны Гітлер быў для нас няшчасных надзеяй на ратунак, але для яго былі мы толькі славяне, якіх належала вынішчыць”. Штораз аўтарка ўспамінаў задае сабе пытанне: „За што?”

Беларускі народ, які быў яе платанічным каханнем, а яго вольнасць — мэтай і марай яе жыцця, пасля пару гадоў бальшавіцкай індактрынацыі бачыў у яе асобе толькі ворага. У 1956 г. Ларыса Геніюш вярнулася з савецкага канцлагера ў сваю Зэльву. Пад уплывам усялякіх выпрабаванняў напісала тады хіба найбольш сумную канстатацыю ў сваіх успамінах: „Ні адзін народ так не здзекаваўся нада мною і над маёю сям'ёю, як беларускі... Ні адзін народ так не ўніжаў сваіх паэтаў і жанчын”.

Ларыса Геніюш не пісала свае „споведзі” дзеля славы ці апраўдання за свае ўчынкі, а толькі каб паказаць іншую беларускую рэчаіснасць. Шмат там фактаграфічных памылак, жаночага энтузіязму, ірацыянальнасці, але за словамі відаць чалавека, які робіць жыццёвыя памылкі, прызнаецца да іх, цярпіць за сваю наіўнасць і крыўдушнасць іншых.

Сёння, калі чытаю пра клопаты з выданнем у Менску аповесці Васіля Быкава „Сцяна”, усведамляю сабе, якую вартасць для нашай культуры меў кароткі перыяд свабоды ў 1990-1994 гадах. Цікава, што падумала б Ларыса Геніюш, калі б дачакала лукашэнкаўскай эпохі з усімі яе ганебнымі рэферэндумамі і выбарамі, кампраметуючым канфармізмам інтэлігенцыі.

Змест „Споведзі” адкрывае неабмежаваную крыніцу веды пра беларусаў; не толькі пра гісторыю народа, палітычных лідэраў, але таксама пра нацыянальны характар, які не мяняецца цэлымі дзесяцігоддзямі, а можа і стагоддзямі.

**(ям)**

*Ларыса Геніюш, *Споведзь*, Мінск 1993, сс. 270.

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ


Артур Вольскі

## *Вялікдзень*

Вялікдзень,
Вялікдзень —
цудоўнейшы дзень!
Як сонейка ўзыдзе,
адступіцца цень.

Гэтым днём
Ісус Хрыстос
з мёртвых уваскрос.
Ён цяпер
глядзіць на нас
з вышыні нябёс.

Хто ў нядолі,
хто ў бядзе —
Ён да тых ідзе,
бо шануе нас усіх
як дзяцей Сваіх.

Ён прыйдзе,
Ён прыйдзе,
як чысты прамень,
А злодзей,
А злыдзень
зашыецца ў цень!

Вялікдзень,
Вялікдзень —
цудоўнейшы дзень!

Мае падарожжы

## У грэцкіх цэрквах



У Грэцыі мне давялося ўбачыць шмат цэркваў і манастыроў, але найбольш запамятала я цэрквы ў Містры і манастыр Мега Спілёен.

Містра ляжыць усяго ў некалькіх кіламетрах ад старажытнай Спарты. Спарта — над морам, а Містра — вышэй, на ўзгорках. Хаця ў Спарце не відаць асаблівых слядоў гісторыі, то гэта жывы, звычайны горад. А што датычыцца Містры, дык гэта легендарны горад, сёння зусім мёртвы. Абаронныя ўмацаванні, цэрквы, палацы, манастыры і былыя жылыя дамы стаяць апусцелыя сярод дзікай прыроды.

Мяркуюць, што Містра, якая сёння з'яўляецца, уласна кажучы, толькі музеем, была заснавана ў XIII стагоддзі франкамі. Яшчэ ў тым жа стагоддзі занялі яе візантыйцы. У XIV—XV стагоддзях Містра была значным культурным цэнтрам адроджанай Візантыйскай імперыі. Са Спарты ў Містру была пераведзена сядзіба епіскапа. У 1460 годзе Містра трапіла ў турэцкую няволю (пры дапамозе здрадніка, бо горад практычна здабыць было немагчыма).

У гэтым пустым сёння горадзе, збудаваным у візантыйскім стылі, жыло, як мяркуюць, каля 42 тысяч грамадзян. Шматлікія цэрквы (у некалькіх з іх захаваліся адмысловыя фрэскі), знаходзяцца ў асноўным у ніжняй частцы горада. У верхняй частцы горада, куды трэба ісці вельмі крутою сцежкай, знаходзіцца замак.

Мы хадзілі па Містры ад царквы да царквы, як па нейкім велізарным музеі архітэктуры, жывапісу і скульптуры, і момантамі мне здавалася, што горад жыве. Кажуць, што гэта найцікавейшае месца на Пелапанесе.

На поўначы выспы Пелапанес знаходзіцца манастыр Мега Спілёен (Вялікая Пячора), які лічаць найстарэйшым у Грэцыі (заснаваны ў IV ст.). Аднак ён так многа разоў гарэў і яго адбудоўвалі, што звонку ён выглядае, як новы. Манастыр убудаваны ў скалу так адмыслова, што, здаецца, і скала збудавана рукамі чалавека. Манастыр Мега Спілёен знаходзіцца вельмі-вельмі высока ў гарах. Мы ехалі па вельмі крутой і вузкай шашы ўверх. Не было нават ніякай агароджы, а ўнізе — прорва. Здавалася, што мы ляцім самалётам: наш аўтобус апынуўся ўжо ў хмарах. Пасля да манастыра трэба было ісці яшчэ пехатою.

У манастыры вельмі суровыя правілы. Каб хадзіць па манастыры, трэба жанчынам быць у спадніцы і ў вопратцы з доўгімі рукавамі, а мужчыны павінны быць у доўгіх штанах. А было так горача, і ўсе былі так лёгка апрануты...

У куце ляжала куча доўгіх спадніц і палярын, якія некаторым давялося апрануць. Я надзела на шорты спадніцу — ледзь знайшлі мне маленькую — і пайшла наведваць манастыр. Божа, чаго там не было! Колькі цікавых экспанатаў!

Калісьці гэты манастыр быў найбагацейшы ў Грэцыі, меў маёнткі на Пелапанесе, у Македоніі, у Канстанцінопалі і ў Малой Азіі. Таму ў манастырскім музеі столькі скарбаў, цудоўных ікон.

Запаліўшы ў царкве свечку, я вырашыла напіцца вады са святой крыніцы і абмыла сабе твар. Можа, мае мары збудуцца.

**Адрыяна Семянюк,**
**VII а кл. ПШ № 9 у Беластоку**

## *Кнарыдаўскае свята*

На шостым тыдні пасля Вялікадня кнарыдаўцы спраўляюць вялікае свята. Называюць яго „Абходамі". Бацюшка разам з людзьмі абходзяць вёску. Калісь святкавалі інакш. Працэсія абходзіла і палі, і вёску. Свята пачынаецца ад сходу ўсіх жыхароў Кнарыд. Яны прыходзяць у царкву на набажэнства. Усе моляцца за ўраджай збожжа. Маладыя хлопцы і дзяўчаты бяруць абразы і харугвы, а адзін хлопец крыж. Потым усе разам абходзяць вёску. Працэсія спыняецца перад кожнай хатай. Жыхары хаты выносяць стол, на якім ляжыць хлеб, стаіць соль і гарыць свечка. На стале ляжыць і запіска, на якой пералічаны імёны тых, за здароўе якіх хочам, каб бацюшка памаліўся. Каля стала стаіць уся сям'я. Калі свяшчэннік абыдзе ўсе дамы, вяртаецца ў царкву разам з людзьмі. Там моладзь пакідае святыя рэчы на належным ім месцы і вяртаецца дамоў. Гэтае свята мне вельмі падабаецца. Я хацела б, каб яно было часцей. Найбольш падабаецца мне ўдзел у ім абход вёскі, у якім я таксама бяру ўдзел. Вельмі цешуся, што ёсць такое свята ў нашым сяле. Добра было б, каб яно назаўжды засталося ў звычаі кнарыдаўцаў. Маю надзею, што так будзе.

**Кася Ярашэвіч,**
**V кл. ПШ у Кнарыдах**

## *Польска-беларуская крыжаванка № 16*

| | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Dziecko | Chrapanie | Chrząszcz | Rada | ▼ | Żaba / Syberyjska zawieja | Wiatrak | ▼ | Różki | 📖 | Inny | Miecz | 📖 |
| ▼ | Chrzęszczenie ▶ | ▼ | ▼ | | ▼ | Jar ▶ | | ▼ | Imię ▶ | ▼ | ▼ | |
| | ▶ | | | | | | | | | | | Ajer |
| | Cios ▶ | | | | | Rżysko ▶ | | | | | | ▼ |
| ▶ | | | | Gawron ▶ | | | | | 📖 | | 📖 | |
| | Cisza | | Bankier ▶ | | | | | | | Ar ▶ | | |

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце на працягу трох тыдняў у „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку н-р 12**

Залеж, манера, дата, кадр.

Зад, ганак, лета, перад, жанр.

Узнагароды — **запісныя кніжкі** — выйгралі: **Эля Алексяюк** з Кнарыд, **Сава Астапчук, Адрыян Гегель** і **Уршуля Гегель** з Гарадка, **Міхась Калужынскі, Эва Загон** з Бельска-Падляшскага, **Аня Каліноўская** з Махнатага.

Віншуем!

Узнагароды можна ўзяць у рэдакцыі „Нівы" або чакаць іх у сваёй школе.

Талон „Зоркі" № 16
19.04.1998

# Невыказная радасць

Даўно таму жыў у гарах пастух. Меў ён статак авечак, саламяную хатку і сабак. Аднойчы ноччу, калі пастух і яго авечкі ляжалі ля вогнішча, наведаў іх чалавек. Раней хадзіў ён ад хаты да хаты, стукаў у акно і прасіў людзей:

— Людкове добрыя, дапамажыце мне, дайцё, калі ласка, мне гарачых вугалькоў. У маім доме холадна, выгарэла печ і няма як запаліць агонь. У мяне нованароджанае дзіцятка і нямоглая маці. Мне трэба як найхутчэй напаліць печку і абагрэць дом.

Але людзі спалі і ніхто не адчыніў дзвярэй чалавеку. Пасля доўгага бадзяння убачыў ён тое вогнішча ў гарах. І пайшоў туды, але нялёгка было падысці да агню.

Тры сабакі, чуючы чужыя крокі, падарваліся і захацелі брахаць. Але з іх горла не выйшаў ні адзін гук, які б парушыў начную цішыню. Чалавек бачыў як у цямрэчы бліскаюць вострыя зубы і злосныя вочы сабак. Сабакі неўзабаве ўчапіліся за чалавека. Адзін схапіў яго за нагу, другі за руку, трэці за шыю. Аднак яны не маглі яго пакусаць. Не было ў іх агрэсіі сілы здзяйснення. Пабачыўшы такое дзіва, чалавек рашыў падысці да агню. Але авечкі ляжалі так шчыльна адна ля адной, што немагчыма было прабіцца. Чалавек падумаў, што пойдзе па спінах жывёл. І калі ён ступіў на спячых авечак, ніводная з іх не зварухнулася з месца. Ля агню чалавек пабачыў пастуха. Быў ён стары, пануры і збянтэжаны. Пабачыўшы чалавека, пастух схапіўся за тыніну і кінуў у незнаёмага, аднак тыніна не трапіла ў чалавека, упала непадалёк. Незнаёмы падышоў да пастуха і прамовіў:

— Дарагі сябра, дапамажы мне. Дай мне вугалёк, каб у печы распаліць. У хаце маёй нарадзілася дзіця, мне трэба абагрэць яго і маці.

Пастух не хацеў даць агню. Але ўспомніў, як сабакі не маглі спыніць чалавека, як авечкі не разбегліся са статка, калі той ішоў па іх спінах і як не кранула яго тыніна. Пастух напалохаўся і не меў сілы адмовіць.

— Вазьмі,— сказаў пастух, — калі ўжо так табе трэба.

І незнаёмы набраў голымі рукамі гарачых вугалькоў, і паклаў іх у сваю світку. Такое дзіва, што агонь не паліць ні рук, ні вопраткі госця, яшчэ больш здзівавала беднага пастуха.

— Што гэта за ноч, — гаварыў ён сам да сябе, — сабакі не брэшуць, не кусаюць, тыніна не збівае, агонь не паліць?!

І загаварыў ён да чалавека.

— Чаму звяры і прадметы дараць табе ласку?

— Мне нельга сказаць, чаму — адказаў чалавек. — Ты сам зразумееш.

Пастух нічога не разумеў і каб не страціць чалавека з вачэй, пайшоў яго следам, аж дайшоў да яго жылля. Чалавек жыў у пячоры. Ад каменных сцен веяла моцным холадам. Тут ляжалі маці і дзіця. І хаця пастух быў чалавекам суровым і самалюбным, пашкадаваў чалавека. Зняў з плячэй мяшок, развязаў яго, выняў мяккую пушыстую воўну і даў яе незнаёмаму. У тую хвіліну, калі пастух адчуў міласэрнасць, адчыніліся яму вочы і сэрца. І пабачыў тады тое, чаго раней не бачыў. І зразумеў пастух, чаму ні звяры, ні агонь, ні тыніна не змагаліся з чалавекам. Ён зразумеў, што заўсёды трэба дапамагаць патрабуючым, бедным і няшчасным людзям. Душу пастуха пранікла невыказная радасць. Ён глянуў у неба і захапіўся прыгажосцю тысячы зорак.

**Аня Пракапюк**
**і Ганна Кандрацюк**

## *Вераб'ева надзея*

Усім сябра верабейка,
Хоць не мае ён айчыны.
Долар, грош, лір ці капейка
Для яго — як пілавінне.
Зерне вераб'ю — каштоўна.
Цану мае камар, мушка.
Мову добра знаць каціну,
Каб не страціць сваю душку.

Хоць душа, нат вераб'ева
Значыць шмат у Пана Бога,
Думаць трэба па палове:
„Што Бог дасць, што я нямнога,
Верабей, схаплю у дзюбу,
Каб сямейку пракарміць,
Усё на радасць, не на згубу...
Вясна будзе. Будзем жыць!"

**Міра Лукша**




*Малюнак Ані БАЧЫНСКАЙ і Монікі ЯКІМЮК, ПШ у Чыжах*




*Аліна Сіроцкая, Аня Бачынская і Агнешка Качаноўская таксама ўдзельнічалі ў прадметным конкурсе беларускай мовы. Дзяўчаты вучацца ў ПШ у Чыжах.* Фота Г. КАНДРАЦЮК

# Аднойчы

Пачалася нудная раніца. Калі я ўстала з пасцелі, дома ўжо не было нікога. Я паглядзела ў акно і ўбачыла бацькоў, якія працавалі ў агародчыку пад блёкам.

— Што з маім братам? — заглянула я ў яго пакой. У час канікулаў Марцін у такую пару павінен яшчэ спаць.

А Марцін быў ужо ў падвале і штосьці рабіў пры веласіпедзе. Я збегла да яго ўніз і пацікавілася, чаму ён сарваўся так рана.

— Сёння незвычайны дзень.

— Чаму ж гэта? А чаму ты ўзяўся за веласіпед? Ты ж і так на ім не ездзіш?

— Праўда, — адказаў брат. — Я не карыстаўся ім з тае пары, як у мінулым годзе ўрэзаўся ў дрэва.

Я вярнулася ў пакой, уключыла тэлевізар. Якраз паказвалі „Атрад А". Зараз далучыўся да мяне Марцін, моўчкі дагледзеў фільм, а пасля спытаўся:

— Можа паехала б ты са мною куды-небудзь?

— Ахвотна. А куды?

— Даведаешся, але спачатку мусім папрасіць дазвол у бацькоў.

Брат абуўся. У агародзе спытаўся ў бацькоў:

— Пусціце нас на экскурсію ў бярозавы гай?

Бацькам гэта не спадабалася. Прасілі мы іх і малілі, аж урэшце яны згадзіліся, з агаворкай аднак, што пасля вяртання праполем дзве градкі.

Мы пазванілі да сваіх сяброў. Калі ўсе сабраліся пад нашым блёкам, Марцін раскрыў сваю таямнічую задуму:

— Паедзем да апусцелага ветрака за лесам. Я вас павяду.

Паехалі. У дарозе размаўлялі пра тое таямнічае месца, якога не бачылі ўжо два гады.

— Мусіць, ён ужо зусім перагніў. А, можа, ужо зусім развалены?

Вятрак, праўда, страціў адно крыло. Мы асцярожна заглянулі ў сярэдзіну.

— Можа, пагуляем у хованкі? Вось у гэтым ляску добра можна схавацца, — запрапанаваў Марцін.

Гулялі мы добрыя дзве гадзіны. Раптам з лесу выйшаў ляснічы і перасцярог:

— Ну, дзеці, глядзіце! У гэтым лесе можна лёгка заблудзіцца, а і вятрак ледзь трымаецца, не дай Бог, яшчэ зваліцца!

— Але, цяпер нам прыйдзецца вяртацца. Добра, што раней нас не напалохаў, а то экскурсія зусім не ўдалася б, — уздыхнула я.

Паслухалі мы ляснічага, адправіліся назад. Добра, што хоць на такі кароткі час нам удалося вырвацца з горада.

**Эльвіра Ляшчынская,**
**VI кл. ПШ у Нарве**

# Цішка Гартны

Цішка Гартны — літаратурны псеўданім беларускага палітыка, аднаго са стваральнікаў беларускай савецкай дзяржаўнасці ў 1918-1920 гадах, Зміцера Жылуновіча. Нарадзіўся ён у вёсцы Капыль, што каля Мінска. Як рабочы ў гарбарнай майстэрні ў 1905-1907 гадах прымаў удзел у рэвалюцыйных падзеях. Да часу першай сусветнай вайны працаваў у шматлікіх гарадах Расіі, дзейнічаў у расейскім бальшавіцкім руху. 1 студзеня 1919 быў назначаны старшынёй Часовага ўрада Савецкай Беларусі. У дваццатыя гады быў адным з ініцыятараў беларусізацыі Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі. Быў рэдактарам газеты „Савецкая Беларусь", часопіса „Полымя", дырэктарам Дзяржаўнага выдавецтва БССР, намеснікам міністра асветы. За беларускі патрыятызм быў арыштаваны ў 1936 г. органамі савецкай палітычнай паліцыі — НКВД. Год пасля загінуў у турме ў Магілёве.

Цішка Гартны літаратурную дзейнасць пачаў у 1908 годзе на старонках „Нашай нівы". Спачатку пісаў паэзію. Выдаў нават тры зборнікі вершаў. У гісторыі беларускай літаратуры аднак больш вядомы ён як празаік і драматург. У 1924 годзе паказаўся яго зборнік апавяданняў „Трэскі на хвалях", а ў 1927 г. „Прысады". Аповесці Цішкі Гартнага „На новым месцы", „Зялёны шум", „Сокі цаліны" былі прызнаны літаратурнай крытыкай як найвышэйшае дасягненне беларускага савецкага пісьменства.

Цішка Гартны (Зміцер Жылуновіч) жыў у перыядзе вялікіх грамадскіх і палітычных пераўтварэнняў. Літаратурнай творчасцю і палітычнай працай уключыўся ў гэты працэс. Прабаваў спалучыць камунізм і беларускасць. Аказалася гэта немагчымым і зусім супярэчлівым. За адданасць беларускай культуры заплаціў найвышэйшую цану.

VI Міжнародны тыдзень тэатра

# Неба пачынаецца ад зямлі



*„Парфён і Аляксандра" ў выкананні купалаўцаў.*

Цэлы тыдзень (ад 20-га да 27 сакавіка) нас, гледачоў у тэатры імя А. Вянгеркі, палівалі са сцэны шампанскім, а часам і іскрамі ад петардаў, пасыпалі канфеці; акцёры лазілі па нашых крэслах (часам і па галовах), а мы прыходзілі і прыходзілі на іх спектаклі, даруючы ім гэту блазенаду, арлекінізм, а нават захапляючыся імі.

Паказвалі нам то мужчынскія геніталіі, то някепскія бабскія азадкі, што выпіналіся пасярэдзіне сцэны, чуваць было лаянку (прынамсі пафранцузску) — а ўсё дзеля таго, каб заахвоціць гледача.

На працягу васьмі дзён наш тэатр ажыў ад танцаў, музыкі, пастаяннага гуку, вады і агню.

У сённяшнія дні, калі грошы на культуру не сыплюцца як манна з неба і дырэктару Анджэю Якімцу даводзіцца няраз даслоўна выпрошваць грошы ў спонсараў, нялёгка арганізаваць такое мерапрыемства. І таму ледзь трымаліся на нагах не толькі журналісты штодзённых газет, якія мусілі даваць матэрыял у кожны нумар (наракалі), але перш за ўсё кіраўніцтва тэатра разам з тэхнічнымі працаўнікамі і гардэробшчыцамі, якія няраз працавалі ад раніцы да ночы, бо бывала і па тры спектаклі ў дзень.

Дырэктар Якімец, аднак, мае ўжо вопыт у гэтых справах. Ведае, як зрабіць, каб было добра і танна, каб адчыніць нам хоць на момант акно ў свет.

Каб на ўсё хапіла грошай, запрашае ён перш за ўсё тэатры невялікія, спектаклі з малой колькасцю дзеючых асоб, хаця нават сёлета з Менска і Вільні прыехала па амаль трыццаць асоб. Напэўна, дырэктару хацелася б, каб былі тут тэатры найзнакамітшыя, але ў рамках нашых магчымасцей робіць, здаецца, што можа.

Іншая справа, што мо варта запрашаць толькі лепшыя трупы (няхай бы сабе і было іх менш), бо, як вядома, адна лыжка дзёгцю часам можа пашкодзіць цэлай бочцы мёду. Калі не змог па тэхнічных прычынах прыехаць адзін тэатр, мо не варта замяняць яго эрзацам нават дзеля таго, каб выступаючым артыстам не было прыкра ад таго, што публіка іх не ўспрыняла, не зразумела.

Што датычыць спектакляў, дык мне асабіста найпрыемней агледаліся тэатр „DEREVO" (Санкт-Пецярбург — Дрэздэн), „Чароўная ноч" Станіслава Мрожака ў выкананні артыстаў тэатра Янкі Купалы з Менска, „Гісторыя каня" (паводле Льва Талстога) у выкананні тэатральнага аб'яднання „Пулавы" і віленскі спектакль „Дзядзі Вані" Антона Чэхава. Цікавы быў таксама спектакль „Карыда" тэатра „Белы клоўн" з Украіны, асеўшага ўжо восем гадоў таму ў Кракаве, там аднак (на пяць артыстаў) я бачыла ігру толькі Мікалая Вепрэва, адначасова рэжысёра тэатра, які выразна адрозніваўся ад іншых.

Мне давялося гутарыць з Ленай Яравой, актрысай тэатра „DEREVO", якая захапіла мяне сваёй ігрой. Тэатр існуе ўжо дзесяць гадоў, расказвала яна. Яго дырэктарам і стваральнікам з'яўляецца Антон Адасінскі. Чаму тэатр працуе не ў Пецярбурзе, а за граніцай? У Расіі яны не мелі сваёй сцэны, было цяжка фінансава. Калі ім запрапанавалі Прагу (на год), яны згадзіліся. Былі там два гады і ў дзевяноста трэцім вярнуліся.

Пасля паўтара года ігралі ў Амстэрдаме, два гады — у Італіі (Фларэнцыя), а пасля, прыйшоўшы да вываду, што ў Італіі толькі адпачываць, а не працаваць, змянілі сцэну на Дрэздэнскую, дзе працуюць ад студзеня дзевяноста шостага. Тут адразу адчулі, што акцёры трапілі ў атмасферу працы. Артысту дапамагаюць, арганізуюць яго асяроддзе. У Дрэздэне даюць 15-20 спектакляў у год, маюць там месца ў тэатры і часта выступаюць у нетэатральных месцах, напрыклад, у старых замках.

У тэатры-студыі Антона Адасінскага ўсе акцёры працуюць самі над сваёй роллю, уносячы ў кожную нешта сваё. Многа ў ім танца, які з'яўляецца неад'емнай часткай прадстаўленняў.

Спектаклем „Once...", апошнім з цыкла „Яшчэ раз пра каханне" у стылі камедыі dell-arte, тэатр „DEREVO" распачаў беластоцкі тыдзень тэатра. І добра, бо прынамсі на наступныя прадстаўленні людзі ішлі ахвоча. Акцёры гэтага тэатра, якія лічаць, што чалавек жыве нядоўга і ў гневе, а галасы людзей, якія адчуваюць гармонію свету, гучаць ціха; што для чалавека важныя старажытныя кніжкі і дружба са звярамі; што гарызонт заўсёды пад тваімі нагамі і што **неба пачынаецца проста ад зямлі**, — не могуць іграць кепска. Выступалі, зрэшты, не толькі ў тых краінах, дзе працавалі, але і ў ЗША, Вялікабрытаніі, Аўстрыі, Францыі. Тэатр няраз узнагароджваўся на фестывалях драматычнага мастацтва. Майстэрства яго бясспрэчнае.

Беларускі акадэмічны тэатр у дзень 25 сакавіка, на 80-ю гадавіну незалежнасці Беларусі, даў тры прадстаўленні: на вялікай сцэне (хаця дома выступалі на малой) — „Парфён і Аляксандра" беларускага драматурга Мікалая Манохіна, ды два спектаклі паводле „Чароўнай ночы" Славаміра Мрожака — на малой сцэне.

Хаця ўсе пішуць, што ў „Парфёне і Аляксандры" галоўнае — праблема кахання пажылога мужчыны да семнаццацігодкі, то неяк ніхто не прыкмеціў, што ўсё гэта адбываецца на канве палітычных падзей, якія адбываліся і адбываюцца ў Беларусі. Па-руску гаворыць „точка", бясконца пераконваючы людзей пра пастаяннае паляпшэнне іх жыцця пры сацыялізме, чуваць голас Брэжнева, што партыя штораз мацнее, — а ў сэрцы простых людзей, такіх, як Парфён, уліваецца сумненне і расчараванне. Каханне да жанчыны гэта як бы лякарства на роспач. У спектаклі аднолькава свабодна ігралі дасканалы акцёр Генадзь Гарбук і маладзенькая Ірына Рымарава, якая ў тэатры ўсяго некалькі месяцаў.

Што датычыць „Чароўнай ночы", дык публіка рагатала ад пачатку да канца на абодвух спектаклях. Хто б падумаў, што Валерый Філатаў так сыграў сваю ролю ў вячэрнім спектаклі даслоўна праз пару гадзін пасля візіту ў яго „хуткай дапамогі"! Двое ў адным пакоі ў гасцініцы, будучы ў камандзіроўцы (другі — Аляксандр Падабед) пастаўлены Мрожакам у многія камічныя сітуацыі, а акцёры былі бліскуча дзеля іх створаны. Некаторыя нават назвалі гэты спектакль „глытком свежага паветра".

Няхай шкадуе і той, хто не бачыў „Гісторыі каня" паводле Льва Талстога. Чалавек і конь на працягу гісторыі былі неразлучныя. Калісь конь быў святой жывёлай, а нашы продкі прасілі пахаваць іх разам з іх конямі. Сёння ж дарогі чалавека і каня пачалі разыходзіцца. Чалавек няраз здрадзіў каню, конь яму не здрадзіў ніколі.

Трэба было бачыць той танец каня туманнай раніцай на лузе, чуць стукат яго капыт, выстуканы маладым акцёрам Багуславам Слупчынскім з тэатральнага таварыства „Пулавы"... Здавалася, так і чулі гледачы званочкі, калі конь бег, запрэжаны ў санкі, так і бачылі радасць закаханага ўпершыню жарабца.

Нязвыклы, паэтычны спектакль, хаця тэатральнае таварыства ў Пулавах існуе ўсяго трэці год.

Цікавае было таксама прадстаўленне Віленскага рускага драматычнага тэатра. „Дзядзя Ваня" Антона Чэхава, дзе, здаецца, усё было ўжо сказана, усё ўжо ясна, быў паказаны інакш. Зверху ліліся струмені сапраўднага дажджу. Яго збіралі ў бутлі, а ён залліваў сцэну. Акцёры хлюпаліся ў лужынах, валяліся ў вадзе, адчуваючы пры гэтым асалоду.

Арыгінальная была дэкарацыя. Уся мэбля, паліцы былі застаўлены сотнямі бутэлек, што адпостроўвала змест п'есы. Таможнікі на граніцы былі здзіўлены: як гэта так, везці пустыя бутэлькі. А я падумала: мо дзе што ціхачом і было наліта...

**Ада Чачуга**

*Фота Анджэя Згета*

# Асаблівая сустрэча

Творчыя сустрэчы з пісьменнікамі ў дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа — з'ява звычайная. Але ж менавіта гэтая, аб якой пойдзе размова — асаблівая. У халодны лютаўскі вечар у гасцёўні музея было вельмі ўтульна і шматлюдна. Тут сабраліся сябры і прыхільнікі творчасці беларускага пісьменніка Сакрата Яновіча з Беласточчыны, каб пабачыцца з ім і павіншаваць яго з выхадам кнігі „Сцяна".

Напісана кніга Сакратам Яновічам яшчэ ў 1977 годзе, у гэты ж час выдадзена ў Польшчы на польскай мове.

Тры гады яна знаходзілася ў выдавецтве „Мастацкая літаратура"... „Але ж добрая кніга не паддаецца ўплыву часу — яна вечная", — філасофска заўважыў Сакрат...

І вось цяпер пабачыла свет на роднай мове тут у Беларусі. Прафінансаваў выданне „Сцяны" накладам у 1 500 асобнікаў Дзяржкамітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей.

Увесь вечар пра гэтага надзвычай цікавага чалавека і яго творчасць расказвалі Адам Мальдзіс, Уладзімір Гніламёдаў, Уладзімір Арлоў, Алег Трусаў, Міхась Шаховіч — паэт з Беласточчыны, які прыехаў разам з Сакратам Яновічам.

„... Калі вы будзеце чытаць мною напісанае і вам нешта не спадабаецца, то ведайце, — мне ўсё роўна. Мяне гэта не цікавіць, паколькі я пішу не для Вас а для сябе, аднак, калі мая лабараторыя цікавая й яшчэ некаму, мне безумоўна прыемна", — так пачаў гаварыць Сакрат. Ён не казаў нічога незвычайнага, але ўсім хацелася яго слухаць. Расказаў, як ён працаваў пажарнікам, інжынерам-электрыкам, займаўся боксам. І яшчэ мы пачулі многа вядомых мудрых жыццёвых ісцін, якія неяк па-новаму ўспрымаліся з вуснаў Сакрата.

Сцяна... Гэта перш за ўсё непаразуменне, якое ўзнікае не па волі асобных людзей. Але мы спадзяемся, што паміж беларусамі, якія жывуць у сваёй краіне-маці і беларусамі, што апынуліся за яе межамі воляю лёсу ніколі не ўзнікне сцяна. І сустрэчы паміж імі стануць традыцыйнымі...

Значная частка тыражу накіравана ў Польшчу. Праз бібліятэкі яна знойдзе чытача ў Беларусі, а хто зацікавіцца з беларускіх арганізацый — пішыце, абавязкова дашлем...

**Ніна Петухова**

# Вялікдзень у Царкве

Вялікдзень у Праваслаўнай царкве — сэрца ўсяго гадавога літургічнага цыкла, самае вялікае свята, якое называюць „святам свят і ўрачыстасцю ўрачыстасцей". У праваслаўі падкрэсліваецца асаблівае значэнне ўваскрэсення Хрыста, якое дало сэнс зямному жыццю. Пры нагодзе велікодных святкаванняў, якія выказваюць радасць ад уваскрэсення Госпада і адначасна прыходу вясны, спяваюцца шматлікія песні. Праваслаўныя святкуюць Вялікдзень вельмі радасна, лічачы, што разам з уваскрэсеннем Хрыста вяртаюцца ўсе жыватворныя сілы ў прыродзе.

Велікодную радасць папярэджвае доўгі і сумны перыяд Вялікага посту, які падрыхтоўвае вернікаў да пасхальнай містэрыі. Калісь падчас посту забаранялася (за выняткам дзяцей і хворых) спажываць мяса і тлушч, у тым ліку і малако. У Вялікім тыдні абавязваў строгі пост — у сераду і пятніцу здаровыя людзі карміліся толькі хлебам і вадою, а ў суботу некаторыя ўвогуле не елі.

Пасля Вербніцы набажэнствы маюць сумны характар і вернікі смуткуюць з прычыны пакут Хрыстовых. У Вялікі чацвер у цэрквах вечарам чытаецца 12 фрагментаў Евангелля аб святых пакутах Хрыста, пасля якіх хор спявае ўрачыстыя песні, у тым ліку „Разбойнік". Вернікі ў тым часе трымаюць у руках палаючыя свечкі, якія пасля набажэнства стараюцца данесці дадому. Паводле павер'я, данесены агонь прадвяшчае поспех на цэлы год.

У Вялікую пятніцу здзяйсняецца абрад вынасу Плашчаніцы з выявай Хрыста, пакладзенага ў труну, пасля чаго вернікі дакранаюцца да Яе і цалуюць.

У Вялікую суботу пасля багаслужбы бацюшка едзе ў аддаленыя вёскі, каб пасвяціць пасху — яйкі, мяса, булку і іншыя стравы. Каля поўначы перад Магілай Гасподняй, якая знаходзіцца пасярэдзіне царквы, правіцца ютрань Вялікай суботы, якую называюць Іерусалімскай. Магілу з Плашчаніцай упрыгожваюць кветкі і шматлікія свечкі. Святочная, урачыстая Вялікая субота працягваецца Усяночнай. Вернікі стаяць у царкве ўпоцемках і смуткуюць з-за Хрыстовых пакут. Паводле павер'я на хрысціянскім Усходзе, паўторны прыход Хрыста адбудзецца менавіта ў пасхальную ноч. Апоўначы найстарэйшы чынам бацюшка заносіць Плашчаніцу ў алтар, што абазначае канец Вялікага посту.

Велікодную ютрань свяшчэнікі пачынаюць спевам „Уваскрэсенне Тваё. Хрысце Збавіцелю...", пасля чаго адкрываюцца царскія вароты, пачынаюць біць званы, а вернікі выходзяць з храма на хрэсны ход. На гэты час зачыняюцца дзверы царквы. Свяшчэннікі і дыяканы ў белых аблачэннях тройчы абыходзяць разам з вернікамі храм. Затым святар спявае перад зачыненымі дзвярыма велікодны трапар і адчыняе іх крыжам, а з царквы ў гэты момант льецца радасная светласць. Ужо ў царкве бацюшка словамі „Хрыстос уваскрос" аб'яўляе радасную навіну аб уваскрэсенні Госпада, а вернікі тройчы адказваюць „Сапраўды ўваскрос". Адначасна выказваюць яны адзін аднаму пажаданні поспехаў, прычым цалуюцца тройчы, што з'яўляецца сімвалам даравання крыўдаў.

Літургія ў гэтую радасную велікодную ноч канчаецца каля 6 гадзіны раніцы. У канцы набажэнства бацюшка асвячае пасху ўсім сабраўшымся вакол царквы вернікам.

Светлы тыдзень — гэта перыяд асаблівай прысутнасці Хрыста ў сваёй Царкве. Пра гэта напамінае той факт, што царскія вароты ў храмах застаюцца ў гэты тыдзень адчыненымі. Доказам радасці ад уваскрэсення з'яўляецца забарона станавіцца на калені і чыніць паклоны.

У праваслаўі ў велікодны перыяд моцна падкрэсліваецца лучнасць жывых з памерлымі. Яшчэ нядаўна, непасрэдна перад усходам сонца, людзі пасля выхаду з храма наведвалі магілы блізкіх, перадавалі ім вестку аб уваскрэсенні Хрыста, запальвалі свечкі. Вяртаючыся дадому ўсіх напатканых віталі словамі „Хрыстос уваскрос". Даўней такім чынам віталіся на працягу сарака дзён — да Узнясення Гасподняга.

**Міхал Мінцэвіч**

# Ідзем на выбіткі

Міхаль Пашкоўскі

Велікодныя святы супадаюць больш-менш з тою парою, калі прырода прачынаецца з зімовага сну і цёплае надвор'е апранае зямлю ў безліч колераў, дорачы гаспадарам надзею чакання і радасць хвіліны. Вялікдзень таксама з'яўляецца нічым іншым як перамогай дабра над злом. Таму і быў ён нагодаю для радасці і вяселля. А веселле — гэта ж гульні. Цешыліся не толькі дзеці, хаця яны найбольш. Цешыліся ўсе. Цяпер і гэта стала ўспамінам, уступаючы месца камп'ютэрам, відэаапаратуры ды іншым электронным вынаходкам. А раней... Раней чалавек быў творцам уласнага свету.

Свята пачыналася ўжо ў велікодную суботу. Калі толькі святар пасвяціўшы ежу пакінуў вёску, збіраліся мясцовыя хлопцы і пачыналі будаваць гойданку. Не была гэта звычайная гойданка, якую бацькі рабілі ў садзе дзецям. Сягала яна вышынёю шасці-васьмі метраў, каб відаць яе было здалёк паміж вясковых хат. Хаця канструкцыя была салідная — дзве тоўстыя сасновыя калодкі ўкопаныя ў зямлю, забяспечаныя па баках падпорышамі, падтрымоўвалі моцную папярэчную бэльку, да якой была прымацавана рухомая частка з лаўкаю — часта валілася яна пад сілай імпэту, калечыла гуляючых. Але хто на гэта зважаў! Гойдалася пераважна моладзь — хлопцы і дзяўчаты, часам падросткі. Радзей дзеці і жанчыны або замужнія. Старыя зусім у гэтым не ўдзельнічалі. Забыўшы, што было замоладу, называлі гойданку „чортавай шыбеніцай". Тлумачыцца гэта тым, што ставілі яе быццам бы ў знак Юды, які павесіўся на асіне і хістаўся на ёй ад ветру. Гэта толькі твор людскога ўяўлення. Паяўленне гойданкі найхутчэй трэба спалучаць з часамі язычніцтва, а менавіта з адной з форм пахавання. Таму часта паяўлялася яна падчас вясенніх дзядоў.

Гойданне трывала аж да Праваднай Нядзелі. Потым гойданку разбіралі. Не было звязанага з гэтым абраду. Але з самой гойданкай, а хутчэй з гойданнем былі ўжо спалучаны некаторыя вераванні. Прыкладна: у таго, хто гойдаўся падчас свят не будуць цэлы год балець галава і спіна.

Падросткі і дзеці рабілі сабе круцёлкі. На ўкапаны ў зямлю метровай вышыні кол або вось накладалі кола. На яго ўмацоўвалі драбіну. Ахвотныя сядалі на гэтую драбіну, а іншыя, стоячы бліжэй восі, пхалі яе і тая круцілася. Зараз гэта засталося як успамін колішняга, бо няма ўжо ані святочнай гойданкі, ані круцёлак. Хіба, што ў лунапарку. Некалі гэтыя гульні былі для дзяцей і моладзі чымсьці надзвычай прываблівым, чаго чакалі яны доўгія дні Вялікага посту.

Падчас свят вёска ажывала. Узбуджаная святочным настроем моладзь хадзіла групкамі па вуліцы. Смяяліся, спявалі. Старэйшыя сядалі на прывулічных лаўках, размаўлялі. Адчуваўся радасны настрой. Знікала ўсялякая варожасць і злосць, якой у вёсцы на штодзень было ўдоваль. У госці ў першы дзень свят не хадзілі, таму і выносілі свой святочны настрой на вуліцу. А на ёй — аж шумела. Недзе з выгана далятаў радасны смех і піск тых, што гойдаліся. Там ізноў, акружаныя гурбай малечаў мужчыны, расеўшыся вакол лаўкі на вынесеных з хаты столачках, гулялі ў „лато". Адзін з іх што і раз заглыбляў руку ў мяшочак і вымаў адтуль кубік з нумарком, які голасна адчытваў. Апошнія закладалі гэту цыфру на карце. На картах цыфры былі запісаны ў чатыры радкі. Хто першы залажыў такі адзін радок, той выйграў, забіраючы банк. Карт было 16, а нумаркоў 90. На банк складаліся яйкі або грошы.

Школьная моладзь гуляла ў „круга". Дзяліліся яны на дзве групы, на чале якіх ставалі моцныя і спрытныя хлопцы. Сутнасць ігры заключалася ў тым, што напераменку кідалі ў сябе драўляным кружком або мячыкам. Трэба было яго затрымаць кіямі. З таго месца, дзе ўпаў, кідалі яго ў адваротным напрамку. Такім спосабам перасоўваліся з месца на месца. Перамагала тая група, якая загнала другую ў канец вёскі.

[працяг ☞ 11]

# Служыць Богу і дапамагаць...

[1 ☞ *працяг*]

у царкву. Ад чацвёртага класа пачатковай школы прыслужваў у царкве. Вельмі любіў заняткі закону Божага. Марыў, каб паступіць у духоўную семінарыю. Аднак матэрыяльныя ўмовы на гэта не дазвалялі. У той час вучыліся два старэйшыя браты і бацькам было не пад сілу адправіць мяне ў Варшаву. І паступіў я ў харчовы тэхнікум у Беластоку. Але жаданне служыць Богу і дапамагаць людзям расло ўва мне. У тым часе я многа чытаў духоўнай літаратуры. І ўжо тады хацелася вызначыць свой жыццёвы шлях. Хаця не скажу, што зразу думаў пра манастыр. У час калі служыў у войску, таксама са сваімі калегамі-жаўнерамі хадзіў па лесе, па выдмах Крыніцы Морскай і збіраў зёлкі, з якіх пазней рабілі гарбату войску; на снеданне, на вячэру. Памятаю такі дзень, калі захварэла грыпам *адна чварта* стражніцы. І прыйшоў да мяне капітан і выдаў загад падрыхтаваць лякарства. Трыццаць кубкаў, памятаю, зрабіў. І гэта дапамагло. Я ад тае пары меў магчымасць пабываць часцей у водпуску. У войску ў мяне была ўжо толькі такая мысль, каб поўнасцю прысвяціць сябе Богу. Так дзве мае дарогі сустракаліся, хаця ішлі адна перад другой. Гэтыя дарогі зышліся, калі я вярнуўся з войска. І тады маці мне кажа: „Сынок, ты ўжо па войску, ты ўжо дарослы мужчына, табе пара жаніцца". — „Так, — кажу, — мама, буду жаніцца." — „Дык пакажы мне сваю нарачоную", — зацікавілася мама. „Хутка пакажу табе сваю нарачоную!" — мы пажартавалі з мамай, аж яна пасур'ёзнела, бо мацярынскім інстынктам адчула, што ў маім нутры трывога. „Добра, мама, толькі набяры паветра, не дыхай, пакуль не скажу. Мая нарачоная гэта Царква". Пазней у яблачынскім манастыры я сустрэўся з нашым уладыкам Савай. З той пары і пачалася мая дарога — манастырскае жыццё.

***— У час паломніцтваў, сустрэч з людзьмі Вы часта карыстаецеся беларускай моваю. Вы таксама чытач „Нівы". Скажыце, калі ласка, якое значэнне мае для Вас гэтая мова?***

— Мая родная беларуская мова гэта мая душа. Гасподзь мне даў такім нарадзіцца, такім жыць і так разумець свет. Родная мова павінна быць з чалавекам да канца. Я вельмі шкадую, што не меў магчымасці вучыцца ў школе літаратурнай мове. Але на сваім падсакольскім дыялекце я пачуў свае першыя словы дзяцінства, я слухаў першыя вершы і песні, вучыўся называць свет.

***— Вялікдзень — найбольшае праваслаўнае свята. Некаторыя праваслаўныя з Беластока ці Гданьска хочуць святкаваць разам з каталікамі. Як Вы адносіцеся да гэтай узрастаючай з'явы?***

— Свята трэба святкаваць згодна з традыцыяй, трэба яго ўмацоўваць у нашай прававернасці, у гісторыі. Пасху нельга святкаваць раней яўрэйскай Пасхі і ніколі разам — так рашыў Першы Усяленскі Сабор. А святкаваць, каб прыпадабацца суседзям-католікам — гэта дарога не для нас!

***— Людзі дрыжаць за сваю працу.***

— Мы жывем у краіне, дзе адносна святкавання ёсць законы. На нашым баку закон і трэба ім карыстацца. З другога боку, няма ўжо такіх людзей, з якімі немагчыма дагаварыцца. Святкаваць трэба не толькі першы і другі дзень. Добра было б і трэці. Ну, а калі не выйдзе, то хаця б пасля працы прадаўжаць святы.

***— Вялікдзень для многіх гэта тэлевізар і багаты стол. А які рэцэпт саставілі б Вы, айцец, для нашых чытачоў, каб свята было здаровае і спакойнае, такое якога жадаем сваім блізкім і сябрам?***

— Калі чалавек выпасціцца, то думае што за два-тры дні адпосціцца. Гэта з-за слабасці нашага цела. Мы павінны са спакоем успрымаць асвянцоныя дары пасхальнага стала. Перш за ўсё трэба святкаваць душой. Не сядзець увесь час перад тэлевізарам ці за застаўленым сталом. Трэба, каб пра нашу радасць святкавання Пасхі пачуў увесь свет. Для гэтага хопіць выйсці да людзей і прывітацца словамі Хрыстос Васкрэсе! Калісьці на Сакольшчыне быў цудоўны звычай *галокання*. Людзі хадзілі з гармонікам і песнямі па хатах ды добрым словам славілі гаспадароў і Уваскрэсенне Хрыста. Вялікдзень гэта добры час, каб сустрэцца з сям'ёй, пайсці і наведаць сваіх блізкіх, знаёмых, тых што ляжаць у шпіталі, што сядзяць у турме. Занесці і ім краснае яйка, нашу пасхальную радасць.

***— Наш велікодны стол усё багацее. З другога боку ўсё цяжэй нам дасведчыць пасхальнай радасці. Які рэцэпт саставілі б Вы людзям, якія ад шчырага сэрца шукаюць сувязі з Богам?***

— Многа працаваць над сваёй душой, трымацца посту, чытаць духоўную літаратуру, дапамагаць патрабуючым, маліцца. Я заўсёды гавару маладым людзям, каб яны пазнавалі свае карані, гісторыю, мову. І галоўнае — не баяцца пераадольваць цяжкасці. Бо дыяменты і перлы схаваны ў нутры зямлі. І каб іх дастаць, трэба прыкласці многа працы.

# Дзеля зберажэння памяці

Прайшоў год і, вось, перада мною ляжыць на стале другое выданне „Топографии дорог и памятников” інж. Барыслава Рудкоўскага з Бельска-Падляшскага. Напомню, што ў аснoўным кніжка прысвечана праваслаўным сакральным аб'ектам Бельшчыны і часткова Гайнаўшчыны. Аўтар дае кароткую пра іх інфармацыю, узбагачаючы тэкст графікай кожнага аб'екта і яго тапаграфічным планам.

У другім выданні дададзены апісанні і выявы некаторых відаў дрэў і звяроў, камянёў, помнікаў, акамянеласцей, некалькі тутэйшых краявідаў. Ёсць жа таксама графікі іканастаса ў царкве ў Плёсках і капліцы ў Пяценцы.

Шмат месца аўтар адводзіць апісанню царскага тракту, выказваючы пры гэтым вельмі цікавыя заўвагі наконт значэння дарог у жыцці чалавека. Прызнаюся, што пасля прачытання гэтых заўваг, я з большай сімпатыяй гляджу цяпер на камунікацыйныя шляхі, у мяне стала больш пашаны да іх. Аўтар вельмі ўмела ўплёў у тэкст апісанне аднаго з эпізодаў даследавання царскага тракту, які дасканала аддае ўсю працу ўкладзеную аўтарам у даследаванне нашага мінулага. Чытаючы пра змаганне аўтара з ветрам і дажджом, я дасканала разумею эмацыянальныя думкі, якія ў яго ў той момант паяўляюцца — пра „касматых дэманаў” нашага часу і пра асабістых ворагаў.

Папоўнены фрагмент кніжкі зачыняе артыкул пра каму як геалагічны помнік прыроды.

Другая частка кніжкі ўзбагачана новымі картамі: ваколіц Шчытоў-Дзеняцілова, Вулькі, Мора і Стараберазова, Нурца, Краснага Сяла і Шэшылаў, Чэхаў-Забалотных, Вулькі-Выганоўскай і Паўлінова, Войнаўкі і Палічнай, Белавежскай паляны.

Выхад папоўненай працы інж. Б. Рудкоўскага трэба прыняць з задавальненнем. Яна змяшчае шмат цікавых і цэнных інфармацый аб нашай зямлі, якія, калі б не запісаў іх Барыслаў Рудкоўскі, прапалі б бясследна, так як прапала шмат іншых вестак, спусташаючы гэтым самым нашу гісторыю. Адначасова мусіць здзіўляць, што гэтак шмат увагі да нашага мінулага прыкладае чалавек, які паходзіць з адлеглых нам мясцін, а ў той сам час шматлікія з нас проста топчуць не толькі наша мінулае, але і сённяшняе, лічачы іх лішнім баластам. Га! Яшчэ паклёпнічаюць на чалавека, які стараецца захаваць, зберагчы іх карэнне, іхнюю памяць. Нічога тады дзіўнага, што аўтар у другім выданні сваёй кніжкі ўжо не стрымаў горычы і даў ёй выйсці з сябе.

Асаблівая падзяка належыцца Яўгеніі і Валянціну Гушчам — спонсарам выдання. Грошы, якія яны выдалі на кніжку, не патрачаны! Яны прыслужыліся добрай, высакароднай справе. Зычыць трэба, каб такіх спонсараў было ў нас намнога больш.

**Пётр Байко**

# Царкоўныя спевы

У пачатку сакавіка ў Ольштынскім замку выступіў хор старавераў з горада Дзвінск (Дынабург, Даўгаўпілс — Латвія). Старавераы — гэта раскольнікі ад Рускай праваслаўнай царквы, якія не падпарадкаваліся літургічным рэформам, якія ў 17-м стагоддзі правёў маскоўскі патрыярх Нікан. Яны супрацівіліся трохразоваму — заміж ранейшага двухкратнага — паўтарэнню „Алілуя”, прытрымоўваліся згоднага з рухам сонца — не прызнаючы новаўведзенага сустрэчнага сонцу — напрамку хрэснага ходу, хрысціліся двума — а не па-новаму трыма — пальцамі і не падпарадкаваліся новаўведзенай заходнееўрапейскай нотнай натацыі, трымаючыся традыцыйнай у выглядзе крукоў. Уведзеныя Ніканам рэформы старавераы лічылі скажэннем сапраўднай веры і не пагаджаліся на ніякія кампрамісы. Іх супраціўленне набрала такога адчаю, што частка стараверaў адкінула нават царкоўную іерархію, пераходзячы на г.зв. беспапоўшчыну. Самым вядомым абаронцам старых абрадаў быў пратапоп Авакум, які не скарыўся ні царскім загадам, ні карысլівым прапановам, і за сваю непахіснасць быў абложаны царкоўнаю анафемай, сасланы, катаваны і на канец спалены. Слаўнаю сваёй непахіснасцю стараверкай была баярыня Феадосія Марозава, якая за сваю прывязанасць рускай царкоўнай традыцыі была пасля катаванняў заморана голадам.

Яшчэ ў 17-м ст. праследаваныя царскімі ўладамі старавераы пачалі пакідаць межы Маскоўскай дзяржавы і сяліцца на ўсходніх землях Рэчы Паспалітай. У 1908 годзе, калі царскім указам была ўстаноўлена рэлігійная цярпімасць, старавераы Дзвінска пабудавалі царкву св. Мікалая і з таго часу дзейнічае пры ёй згаданы хор. Вялікі росквіт дзейнасці хору прыпадае на 30-я гады, калі пры царкве быў заснаваны гурток любіцеляў мінулшчыны пад кіраўніцтвам Івана Завалокі. Цяпер хор налічвае каля пяцідзесяці чалавек у трох групах: старшай, сярэдняй і дзіцячай. Спевакі паслугоўваюцца крукавай нотнай натацыяй. Хор спявае на набажэнствах, вядзе навуку старацаркоўнага спеву, а таксама ўдзельнічае ў міжнародных фестывалях. У Ольштыне хор праспяваў м.інш. песні „Пратапоп Авакум заключаны ў манастыры”, „Плач салавецкіх іконаў”, „Пра расставанне душы з целам” і інш. Гэтыя песні харысты праспявалі ў зале, упрыгожанай іконамі са старавераўскага манастыра ў Вайнове.

У 30-х гадах 19-га ст. старавераы пасяліліся і на землях Усходняй Прусіі, заснoўваючы дванаццаць вёсак і шэсць манастыроў. Найважнейшым з іх стаў манастыр у Вайнове, заснаваны ў 1847 годзе; спачатку быў ён мужчынскі, а ў 1885 г. пераняалі яго манашкі. У 1972 г., пасля смерці апошняй ігуменні, манастыр перайшоў у прыватнае ўладанне, а частку яго аснашчэння набыў Музей Варміі і Мазураў. Сёння ў Вайнове жыве дзесяць сем'яў стараверaў, якія маюць сваю малельню.

**Андрэй Гаўрылюк**

# Няхай гісторыя праўдзівай стане

**Адгалоскі**

У артыкуле Міхала Мінцэвіча „Мясцовасці Чаромхаўскай гміны” („Ніва” № 12, 1998) трапіліся сур'ёзныя памылкі. Паколькі некаторыя чытачы серыю артыкулаў М. Мінцэвіча пра мясцовасці могуць успрымаць як гістарычную крыніцу, трэба мне нанесці неабходную карэктуру.

Аўтар піша: „У пасёлку знаходзіцца праваслаўная царква святых Кузьмы і Дзям'яна. Прыход быў створаны ў 1984 годзе з часткі Кляшчэлеўскага прыхода і пачаткова дзейнічаў пры могільнікавай царкве з 1797 года”.

Фактычна, у Чаромсе-пасёлку стаіць царква, але не святых Кузьмы і Дзям'яна, а Іконы Божае Маці „Достойно есть” або „Замілаванай”. Прыход не ўзнік, як піша аўтар, у 1984 г. толькі ў 1986 г. у выніку падзелу Кляшчэлеўскага і Кузаўскага прыходаў — царквы ў той час у Чаромсе не было. Краевугольны камень пад пабудову царквы ў Чаромсе быў закладзены 11 кастрычніка 1987 г. (гаворыцца пра гэта ў маёй публікацыі „Плён грамадскай працы”, Ніва № 45, 1995), а высвяціў царкву Яго Блажэнства Васілій 11 кастрычніка 1995 г. — восем гадоў пасля закладу каменя.

Царква святых Кузьмы і Дзям'яна, пра якую піша М. Мінцэвіч, знаходзіцца ў Чаромсе-вёсцы каля могільніка.

У іншым месцы аўтар піша так: „Перадавымі земляробамі лічацца тут Ян Зінчук і Васіль Астапковіч”.

Званне „перадавога земляроба”, калі не памыляюся, не прыжылося ў новым дзяржаўным ладзе. Не ў тым аднак справа. Як я даведаўся ў гміннай управе, няма ў нас земляробаў у поўным значэнні гэтага слова — г.зн. людзей, якія поўнасцю ўтрымліваліся б з працы на гаспадарцы. Няма таксама даных, паводле якіх можна было б ацэньваць паасобных гаспадароў. Што тычыцца названых М. Мінцэвічам асоб, дык Васіль Астапковіч перапісаў сваю зямлю на сына і цяпер ён у большай ступені пенсіянерам, чымсьці гаспадаром. Ян Зінчук у цяперашні час не займаецца ўжо, як было гэта ў 60-70 гадах, велікамаштабнай жывёлагадоўляй.

М. Мінцэвіч піша, што пасля 1984 г. да новастворанага прыхода ў Чаромсе былі далучаны некаторыя вёскі Зубачоўскага прыхода. Зубачоўскія прыхаджане сказалі мне, што ўсё засталося ў ранейшых межах. Адна толькі вул. Фабрычная ў Чаромсе-пасёлку была далучана да прыхода ў Зубачах.

**Уладзімір Сідарук**

# Сасна — мафусаіл

У Белавежскай пушчы маем найбольш векавых дрэў, у тым ліку 913 дрэў-помнікаў (862 паасобныя дрэвы і 34 групы дрэў). Спісак кандыдатаў у лік помнікаў прыроды адкрыты. У далейшым усё вышукоўваюць рэдкія экземпляры...

Нядаўна натрапілі на сасну, якой 369 гадоў! Расце яна ў запаведніку Ліпіны, што недалёка ад Гайнаўкі.

Варта дадаць, што пушчанскія сосны дасягаюць нават 40 метраў вышыні і 380 сантыметраў таўшчыні. Гэта доказ на тое, што нараджэнне і жыццё ў лясных нетрах Белавежскай пушчы спрыяе даўгавечнасці.

**(гай)**

# „Наша ніва” і ўсходняя Беласточчына

**Частка 14**

Несумненна, найбольш вестак на старонках „Нашай нівы” паяўляецца з Бельскага павета, а гаворачы дакладней — з Кленік і навакольных вёсак. Так дзеялася дзякуючы знакамітаму Яўгену Хлябцэвічу, які свае інфармацыі падпісваў найчасцей псеўданімам Халімон з-пад Пушчы. Праўдападобна, псеўданім Міхалка-Запалка таксама належаў гэтаму дзеячу. Магчыма частку сваіх публікацый падпісваў ён ініцыяламі Е. І. або Х. Якраз усе гэтыя подпісы выступаюць пад чатырма чарговымі публікацыямі, якія былі змешчаны ў 16 нумары „Нашай нівы” за 1908 год.

Асаблівую цікавасць прадстаўляе артыкул падпісаны псеўданімам Міхалка-Запалка, які датычыць Кленік і Градочна. Па-першае, характарызуе ён вялікі неўраджай у раёне Бельска-Падляшскага, а па-другое гаворыць пра канфлікт між жыхарамі Кленік і Градочна.

„Ураджай у гэтым гаду ў нас у два разы меншы як летась, бо зімою жыта сапрэла; каласы на полі рэдкія, але поўныя, зерне добрае на насенне. Бяда толькі прылучылася мужыкам з-пад самога Бельска: там велікі град (градзіны былі як курыныя яйкі) павыбіваў усё чыста на вёрст дзесяць навокал. Цяпер на тых месцах расце як бы атава, з карэньчыкаў вырастае новае зялёнае жыта, а тым годам суседнія гаспадары ўжо тыдзень як свае пажалі. Усяго шкоды зрабіў град блізка на 20 тысяч рублёў. Біў ён так моцна, што адна кабеціна — вураднічыха, каторая папала пад яго тры дні хварэла ад пабіцця”.

Вельмі цікавыя весткі знаходзяцца ў другой частцы артыкула. Адносяцца яны да вострага канфлікту між жыхарамі Кленік і Градочна. Паслухайма яшчэ аўтара:

„Так на нашых вёсках ціха, аб паліцыцы не чутна, толькі ўспамінаюць мужыкі аб леташніх забастоўках, аб І і ІІ думах. Цемната, як прасціралам, закрыла вочы народу і мужыкі нашы не маюць што лепшага рабіць, б'юцца між сабою за глупства. Вось нядаўна выйшла бітва між мужыкамі в. Кленік і Градочны з такой прычыны: градочняне пажалі свае жыта, але шчэ не забралі снапоў з поля, а кленікскія мужыкі пагналі сваю скаціну на ржышчэ. Тады градочняне раззлавалі і занялі 10 быкоў. Кленікскія, нягледзячы на гэта, пагналі ізноў жывёлу на тое-ж поле, а як яе хацелі таксама заняць, дык суседзі счапіліся і сталі біцца. У канцы кленікскія сагналі градочнян: біліся так, што трое людзей збілі да паўсмерці. Устыд і сорам усім мужыкам за гэткіх дзікіх людзей, што паднімаюць руку на такіх самых бедных і зацісненых братоў сваіх, як і яны! А яшчэ кленікскія мужыкі хваляцца, ды кажуць: «Мы пабілі!»”

Наступная інфармацыя, падпісана літарай Х., характарызуе сітуацыю, якая ўзнікла ў Градочне вакол камасацыі зямлі. Даведваемся з яе, што мясцовыя сяляне пастанавілі, што разам з камасацыяй зямлі дзве трэція жыхароў пераселіцца з вёскі на хутары. Пасля аднак тыя, хто намерваўся перасяліцца, перадумалі справу і пастанавілі не пакідаць старых селішчаў. Сваю інфармацыю аўтар заканчвае сумнай заўвагай: „Як відаць, нічога не выйдзе з усёй справы і мужыкі і далей будуць ціснуцца на сваіх вузенькіх шнурах. А шкада: вось жэ па ўсіх культурных краёх нігдзе не спаткаеш шнуроў і шахоўніцы, бо гдзе народ святлейшы, там ён ужо даўно завёў фальваркавыя (хутарныя) гаспадаркі, вельмі карысныя для гаспадароў”.

На жаль, не даведваемся, які быў фінал гэтай справы і ці ў канцы канцоў камасацыя ў Градочне была праведзена, ці не.

**Алесь Барскі**

# Парнасік

### Красавік

Людзі кажуць, красавік
Гэта месяц мілы.
Расквітаюць кветкі ў ім
І кожны шчаслівы.
Сонейка ўгару пайшло,
Лепей стала грэці,
Людзей у поле павяло,
Каб зямлю рабіці.
З усім і я ажыў сам,
Выйшаў на дарогу.
За ўсё дзякаваць трэ нам
Шчыра Пану Богу:
За ўсе Божы ласкі,
Што нам даў здароўе,
Каб усе маглі мы
Ў свеце жыць спакойна.
За Яго турботы,
Што нам адымае
І грахі, дурноты
Што нам адпускае.

**Мікалай Лук'янюк**

### Вуліцы і іх жыццё

У Дубічах-Царкоўных дзве вуліцы,
Хто з нас ідзе ўгару, а хто скуліцца.
Маладыя растуць, пажылыя
старэюць
І жыць па-рознаму ўмеюць.
Ёсць у нас майстры, музыканты —
Іх штаны выгладжаны ў канты.
Ёсць добрыя сяляне, як з кніжкі —
У іх усё дагледжана і няма „лішкі".
У Арлянцы даўно загінулі ракі,
А ў нас жывуць п'яніцы-небаракі,
Яны ў нас не зводзяцца,
Хаця такімі і не родзяцца.
Маем і Гмінную ўправу —
І гэта наша слава!
Войт Паўлоўскі разумна правіць
І будзем яго надалей любіць
і славіць.
Маем і медыцынскі асяродак,
У яго век таксама не *каротак*;
Лечыць нас Эва Барана паспяхова,
Якая трымаецца роднага слова.
Таксама добра лечыць
Ружыцкая Станіслава —
Яна стаматолаг з добраю
ў людзей славай.
Начальнік пошты —
Марыся Кардаш —
Яна родам з Карыціск і чалавек наш;
Вельмі добра служыць і ласкава
Б'ю ёй нізкі паклон і бурнае *брава*.
Ёсць таксама і школа,
Дзе гучыць беларуская мова;
Таксама вывучаюцца і іншыя
прадметы —
Гэта стымул для шырокіх ведаў.
Маем і *страж агнёву*,
Яна ад пажараў надзейнай аховай;
Камендант яе — Яўген Кірылюк,
Мае ён і краму, дзе тавар
вырываюць з рук.
Маем і другія крамы,
Дзе яшчэ не дайшло да дракі
і драмы.
Шафёр пажарнікаў Косця Качка —
заслужаны,
Ён павагаю і добрай славай
акружаны.
Маем і царкву, яе настаяцель
айцец Славамір,
Які служыць Богу і людзям
ды любіць спакой і мір.
Мае быць вуліц і больш —
Ці будзе лепш, ці мо горш?
Час скора пакажа
І жыццё на практыцы адкажа.

**Мікалай Панфілюк**

# Вітаю Ялінку!

Шчыра цешыцца маё старое сэрца, калі вочы бачаць на старонках „Нівы" выказванні маіх знаёмых, сваякоў, родных, асабліва маладых! А з асаблівай радасцю я чытаю цяпер допісы Іаланты Грыгарук, якую я заўсёды называю Ялінкай. Ведаў я ейнага тату Міколу, шчырага і інтэлігентнага беларуса, які памёр, пакінуўшы маленькую дачушку. Ведаў і Ялінчынага дзеда, Юстына Кастанчука з Семяноўкі, добрага чалавека, малодшага брата Івана, дзедкі Міры Лукшы. Ведаў я нават іхняга, Мірынага і Ялінчынага, прадзеда Івана, які, вярнуўшыся з бежанства (прапрадзед Мітрук не спалохаўся вайны, астаўся пільнаваць сваё, і дачакаўся вяртання ўсяе радні на роднай палосцы), памёр на сэрца, калі ўбачыў, як палыхае родная страха... Добра разумею, як баліць сэрца, калі бачыш, як роднае прападае. Бяжыш яму на ратунак, ратуеш, як умееш.

Гэта былі (і ёсць, як цёця Івана і Юстына, родная сястра Івана Дзмітрыевіча, Зося Харкевіч са Слабодкі, якой ідзе ўжо 102 год працавітага жыцця) простыя, шчырыя людзі, руплівыя і працаўнікі, якія шмат не гавораць, а робяць тое што належыцца... Кажуць, найбольш з дзядоў бярэм, а ўсведамляем гэта часта ўжо як дарослыя — бо яны **памятаюць**. І яны, маладыя, што прыйшлі ў наша жыццё ў апошнія гады, для нас як паратунак вялікі тутака. Бо я ўжо быў страціў надзею, ныдка мне было глядзець на шмат якіх маіх равеснікаў і аднагодкаў бацькоў сённяшніх маладых, на ўсю тую крывадушнасць, на святочнасць беларушчыны шмат якіх „дзеячаў", на дадушванне ўласнымі рукамі роднага! Дзякую Богу, што паслаў нам такую падмогу таго пакалення, з якога настаўніцы Іаланта, Аліна, Валя і іншыя, з якога нівускія Коля, Алесь, Алег, Міра, Лёня, Гандзя, Яўген, Віталь, з кога старэйшыя і маладзейшыя часопісаўскія працаўнікі, дактары хоць бы Бася і Ясь, інжынеры, юрысты, артысты... Не буду іх пералічваць, яны знаёмыя ўсім, хто з імі сустракаўся хоць бы і ў дарозе па родных мясцінах, на рэйдах. І тое, што яны робяць хоць бы ў справе школьніцтва ў Беластоку (навучанне роднай мовы, прадшколле, тэатр...) гэта чамусьці мазоліць вочы некаторым „пернікам", і то настолькі, што пачынаюць іх абліваць памыямі?! Хоць бы ў Варшаве, перад чужымі?! Можа, „Ніва" дэмаралізуе моладзь?! Я ад злосці ледзь вось аддыхацца магу! Я вам скажу, панове, такую моладзь, не здэмаралізаваную **вамі**, немагчыма сапсаваць. Бо яна ведае, чаго хоча. Не лезьце з дурнымі парадамі, бо вашы парады не адну душу давялі ўжо да згубы, не цягніце на дно іншых! Не глушыце індывідуальнасці так, як, можа, рабілі гэта з вамі вашы бацькі!

Праўда, і сённяшнім маладым часта бацькі гаварылі і кажуць: „З тае твае *Беларусі* хлеба ніхто яшчэ не наеўся!" А мне, старому, усё так думаецца: **На добрай заквасцы хлеб павінен удацца!**

**Вандал Арлянскі**

# Крыжаванка

**Гарызантальна:** 4. пустая прастора ў горным масіве з выхадам на паверхню, 7. горад у Андалусіі, 8. сярэднявяковая сталіца Іспаніі, 9. сярэдневяковы цэнтр арабскай культуры на Пірэнейскім паўвостраве, 10. дэталь кампрэсара, 14. П'ер, французскі паэт (1524—85), 18. крайняя частка прасторы, 19. горад на Гарыні, 20. масавая беларуская арганізацыя ў Польшчы ў 1925—27 гг., 21. сіла, якая супрацьдзейнічае руху аднаго цела па паверхні другога.

**Вертыкальна:** 1. чорная тапполя, 2. будынак для захоўвання збожжа, 3. горад у Латвіі, 4. пяцікапеечная манета, 5. галаўны ўбор мусульманіна, 6. індыйскі князь, 11. выкладчык, 12. передача рухомай маёмасці ў платнае часовае карыстанне, 13. напітак багоў, які даваў бяссмерце, 15. узвышаная частка хрысціянскага храма, 16. парадная зала для прыёму гасцей, 17. Філіп, нямецкі жывапісец (1777— 1810). **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 9 нумара**

**Гарызантальна:** брага, каскароба, Намюр, твіст, боа, анероід, „Рамаяна", ага, узмах, гліна, сімпозіум, таксі.

**Вертыкальна:** валакно, бісер, аборт, кампраміс, анімалізм, нанду, танга, БДА, ара, гаворка, хамут, Гаіці.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Міхалу Байко** і **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.

# Вер — не вер

Астроне, ці не будзе нейкай змены ў мяне на рабоце, або ў хаце маёй, бо прысніўся мне вось які сон.

Да мяне на кватэру прыйшлі ўсе працаўнікі прадпрыемства, на якім я працую. Першы ўвайшоў у пярэднюю дырэктар з жонкай (жонка на прадпрыемстве не працуе), за імі сяброўка, з якою мы дзве выконваем такую самую работу. Бачу іх выразна, а іншых працаўнікоў не бачу, толькі ведаю, што яны таксама ўвайшлі. Усе яны стаяць у пярэдняй, бо ў хаце маёй мноства розных рэчаў, проста нельга далей прайсці, адным словам — балаган! Сяброўка кажа: „Я пайду на панадворак. Буду там прадаваць кніжкі".

І канец сну. Што ён можа абазначаць?

А вось той жа сяброўцы з майго сну праснілася іншая наша супрацоўніца — жанчына сярэдняга ўзросту, так сказаць „пушыстая". А ў сне яна бачыць яе маладзенькай, шчупленькай, зграбнай і вельмі прыгожай. Трымае яна на руках маленькае дзіцятка — хлопчыка. Чапляецца ён за яе грудзі, бо хоча есці, але да цыцкі ніяк не можа дастацца. Яна ёй кажа: „Ты памажы яму, інакш стань, або сядзь, бо яму ж так малачка хочацца!"

**Ірына**

Ірына! Сапраўды, у цябе на рабоце могуць адбыцца нейкія змены. Пра гэта, несумненна, сведчыць перш за ўсё той балаган у тваёй хаце. Аднак ён мог бы датычыцца і іншых змен (напрыклад, кватэры), калі б не было ў тваёй хаце столькі тваіх супрацоўнікаў, гэта значыць, калі б яны не прыйшлі да цябе. Справа можа датычыцца таксама цябе, бо калі бачыш у сне шмат людзей — абазначае гэта страту самастойнасці.

А што датычыцца сну тваёй сяброўкі, дык яе, здаецца, чакае нешта добрае. І прыгожая жанчына была ў сне, і тое дзіцятка файненькае...

**Астрон**

# Ідзем на выбіткі

[9 ☞ праця]

Меншыя дзеці гулялі ў „лубок". Па схіле (часта выкарыстоўвалі да гэтага знятую з распілаванага напалавіну пня кару) качалі, згодна з устаноўленай чаргою яйкі. Выйгрываў і забіраў яйка той, чыё яйка ўдарыла ў другое.

Пачынаючы ад Вялікадня гулялі ў „пікар". Да гульні патрэбны быў калалак дрэва або металічная банка. Ставілі яго ў квадраце за 5-7 метраў ад лініі гуляючых. Выбіралі вартаўніка „пікара". Адбывалася гэта такім спосабам, што кожны гулец ставіў кіёк на ступню нагі і, прытрымоўваючы яго зверху рукою, разгойдваў ды кідаў наперад. Той, чый кіёк упаў найбліжэй мяжы быў вартаўніком пікара. Ставаў ён воддаль пікара, а апошнія імкнуліся яго збіць, кідаючы кійкамі. Калі гэтак сталася, вартаўнік павінен хутка яго паставіць і старацца дакрануцца сваім кійком да аднаго з тых, што беглі па свае кійкі за мяжу. Калі гэта ўдалося, хутка збіваў „пікар" і наступала змена вартаўніка.

Пачынаючы ад велікоднага панядзелка гулялі ў так званыя „выбіткі". На першы дзень Вялікадня гэтая гульня была забаронена — каб летам не збіваць пальцаў на нагах. Вядома, калісьці хадзілі басанож. У гульні прымала ўдзел двух ігракоў. Адзін выклікаў другога: „Ідзем на выбіткі". Трывалась шкарлупінкі яйка правяралі на зубах. Потым адзін з іх выстаўляў яйка наском, а другі наском у яго біў. Калі насок трэснуў, абарочваў яго пушкаю. Праігрываў той, чыё яйка лопнула. Пабітае яйка аддаваў другому. Звычай гэты існуе і зараз.

Другі дзень свят адкрываў магчымасць гасцяваннем і танцам. Пачыналіся танцавальныя вечарыны.

**Міхаль Пашкоўскі**


# Ніва

**„Niwa"**, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435 022.

Druk: „ORTHDRUK", ul. Składowa 9, Białystok.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Старшыня Праграмнай рады: Яўген Мірановіч.

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк (сакратар рэдакцыі), Аляксей Мароз, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1998 r. upływa 5 czerwca 1998 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał 1998 r. wynosi 15,60 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,20 zł, a kwartalnie — 28,60 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка

**Фрашкі пра нашых**

## Смак жыцця

Малако смактаў
дзіцяткам.
Нагбом
у маладосці
ром.
Рамонак мус піць
у трыццатку...

Калі да сівізны дацягне,
Што ж тады пац—ягне?

## Драпежніца

У Тхарыцы
ў Бельску-Падляшскім
Увесь народ цяпер у нялясцы,
Хто добра чуе і бачыць ясна
Яе аскому на свойскае мяска.

**Вандал Арлянскі**



Малюнак Алега Карповіча

## „Даўціпы” Андрэя Гаўрылюка

— Што, дарагая, хочаш, каб купіў табе ў Парыжы?
— Ой! Сама не ведаю...
— Надумайся, і як вярнуся, тады мне скажаш.

* * *

— Паглядзі, каханы, які гэты наш свет малы! Учора даведалася, што твая трэцяя жонка і мой другі муж праводзяць мядовы месяц у дачы першага мужа тваёй другой жонкі.

* * *

— Эх! Няма, як першая любоў, — уздыхае ён.
— Гэта праўда, але і ты, бывае, умееш быць добрым.

* * *

— Ці магу табе паставіць важнае пытанне, з якім збіраюся ўжо ад трох тыдняў?
— Стаў! Я ўжо месяц маю прыгатаваны на яго адказ.

* * *

— Помніш, дарагі, калі прасіў ты мяне, каб стала тваёю жонкай? Я тады ад радасці не магла некалькі хвілін вымавіць ні слова...
— Пэўна, што памятаю: гэта былі самыя шчаслівыя хвіліны ў маім жыцці.

* * *

— Чаму са мною не жэнішся? Якія маеш да мяне закіды?
— Тваё мінулае.
— Ты ж ведаеш, што яно беззаганнае.
— Так, але вельмі доўгае.

* * *

Два мужчыны гутараць пры бакале віна:
— Даўней, калі падумаў пра жанчыну, адразу ўзбуджаўся ды гатовы быў да далейшых дзеянняў. А цяпер думаю, думаю і — нічога.
— Калі добра задумацца, дык вынікае, што нешта не ў парадку з тваёй галавою.

* * *

У рэстаране:
— Што такое здарылася, што сёння пусцілі ў рэстаран такую чараду п'яніц? — пытае наведвальнік афіцыянта.
— Сёння ў парадку выключэння — каб пазбыцца тыднёвага гуляшу.

* * *

— Порцыі ў вас штораз меншыя, — заўважае наведвальнік.
— Гэта толькі аптычны абман, бо крызіс расце, — адказвае афіцыянт.

## КлінАм

Гледзячы на напісанне загалоўка, многія карэктналюбныя назіральнікі нашага тут тутэйшага жыцця-быцця могуць падумаць, што за пяро ўзяўся слаўнейшы ў нас дыктар Цім Паводзін. Аднак гэта яшчэ не надзённасць, а толькі мара пра высакароднейшае мастацкае, трансфармаванае з эфіру на паперу, слова, якое вось-вось не за гарамі. А пакуль што, трэба абысціся грызмоламі пісакі, які суфіксам *-Ам*, рыхтык як у назве авіякампаніі *PanAm*, хоча падкрэсліць сваё снабісцкае захапленне Амерыкай.

Бо і як тут аставацца раўнадушным задрыпанцам, назіраючы за поспехамі галоўнага пасажыра „Эйр Форс Уан”, які далёка абагнаў нашага, масцітага ж, Сесяля Ябко. Вось цяпер ён, значыць Клінтан, пазваніў, быццам мы па таксі, па свой аэраплан, і заказаў курс, быццам мы пад „Лесніачанку” ці „Падляшанку”, у Афрыку. Ну і паляцеў, а навошта — гэтым я не буду цікавіцца, бо мяне, як стопрацэнтнага беларуса, палітыка не цікавіць, а цікавіць толькі культура, а асабліва арганізатарскія дзеянні вельмі культурных праўленняў пад кіраўніцтвам нашых славутых Янаў. Пра Клінтана магу толькі здагадвацца, што паляцеў ён на сафары, каб аскальпаваць рог якому насарогу і пасля сцерці той рог на цудадзейны парашок. Магчыма, што праз некалькі гадоў пасля таго сафары за афрыканскімі газелямі і малпамі будуць бегаць светлавалосыя негрыкі з разяўленымі роцікамі.

Пакінуў Клінтан Амерыку, аднак тамашняе грамадства не пала духам і робіць выгляд, што ён *вечно жив*. Неяк пастаянна абнародуюцца тамака чарговыя дамы, якія выяўляюць пра сваё найглыбей пранікнёнае знаёмства з прэзідэнтам. Дарэчы, па Лос-Анжэлесе ходзяць чуткі, што Клінтан даглыбінна знаёмы з усімі дамамі Амерыкі. А калі так, дык трэба спадзявацца, што не абмяжоўваўся ён толькі да вузкага круга сваіх суграмадзянак, але і абдорыў сваёю ўвагай і гасцей з найбольш дружалюбнай Амерыцы дзяржавы, якіх тамака не так і мала і баявітыя яны. Вось, для прыкладу, адзін такі дружалюбны баксёр паехаў да іх і так даў тамашнім пад пояс, што аж трэба было англічаніна, каб ратаваць амерыканцаў ад бяды. Або хаця нашы палкоўнікі: паехалі ў Амерыку і там адразу таксама яны палкоўнікамі. Адзін з іх, праўда, быў палкоўнікам па фехтаванні, але другі быў сапраўдным генерал-штабс-палкоўнікам. Дарэчы, не так даўно маскоўскія, бадай, улады прысвоілі нейкаму тамашняму чэмпіёну званне генерала; казус гэты доказвае правільнасць меркавання Хрушчова, што Амерыку можна не толькі даганяць, але і дагнаць, і абагнаць: трэба толькі для гонкі правільна падабраць сцежку-дарожку. Вось у апошнім часе прэзідэнт Ельцын заявіў пра свой адказ ад удзелу ў наступных выбарах, хіба таксама каб абагнаць амерыканцаў: па Лос-Анжэлесе ходзяць чуткі, што хоча ён памяняць сваё прозвішча на Клін-Клінам і, так як Клінтан сваім, так і ён, не абмяжоўваючыся прэзідэнцкім этыкетам, хоча заняцца сваім любімейшым хобі. Як у камунізме, кожнаму паводле патрэбаў: Білу Білава хобі, Барысу Барысава...

Вярнуцца, аднак, выпадае да згаданага генерал-штабс-палкоўніка: не надта даўно ўлады Кракава і Гданьска прысвоілі яму званне ганаровага грамадзяніна горада (ГГГ). А ў Беластоку ўладары не дурылі галавы нейкім там ГГГ, толькі заняліся намнога сур'ёзнейшым пытаннем, а менавіта запрапанавалі на пасаду прэм'ер-міністра нашай найяснейшай дзяржавы прэзідэнта нашага горада, даказваючы, што ў парламенцкіх выбарах набраў ён больш галасоў за Цімашэвіча. На вялікі жаль, варшаўскія палітычныя дзялкі вышэй ад індывідуума паставілі індывідуальнасць і прэм'ер-міністрам стаў чалавек, які набраў намнога менш галасоў: недзе на ўзроўні нашых Пры-Цімашэвічаў, магчыма, што нават разам узятых...

Пара, аднак, хаця на хвіліну, вярнуцца з нашай правінцыі ў вялікі свет. Як было сказана раней, пара ўжо чакаць, што аб'явіцца і нейкая польская давайдама (ПДД), якая раскажа пра сваю схватку з Клінтанам, давёўшую да экстрэмальнай напругі ўсю ягоную самую перадавую мускулатуру. І ў такі гістарычны момант трэба будзе спадзявацца, што ў Гданьску і Кракаве тая ПДД атрымае адразу ГГГ. І мы, у Беластоку, таксама не павінны зяваць, толькі адразу дамагацца назначэння на віцэ-прэм'ера або прынамсі на міністра аднаго з нашых паслоў: найлепш стопрацэнтнага, які не цікавіцца палітыкай.

**Адам Маньяк**

## Сардэчныя ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Нешта ты ў апошні час пачало віляць. Раней мне здавалася, што ты пра розныя сардэчныя справы пісала больш адкрыта, менш завуалёўвала эратычныя справы.

А чаго саромецца? Гэта ж усё — жыццё. Эротыка, секс — неабходны яго элемент, як і хлеб, праца. Ты ведаеш, а можа яшчэ і важнейшыя яны, бо без гэтага не было б жыцця. Найгалоўнае заданне чалавека як часцінкі прыроды — пакінуць сабе падобнага.

Чаго ж ты, Сэрцайка, збалася? Такія ж „моцныя” тэксты ішлі... А цяпер ужо і сама не ведаю, ці ты адкажаш мне, параіш нешта ў маіх праблемах.

Я пазнаёмілася з мужчынам, якога пакахала з усёй сілы самотнага сэрца разведзенай бабы. Пяць гадоў я жыла без мужчыны, а цяпер вось спаткала яго.

Слухай, каб ты ведала, колькі дзяўчат круціцца вакол яго! Кожная гатова з ім пайсці, калі б толькі захацеў. А ён прыклеіўся да мяне, хаця я нават старэйшая за яго на некалькі гадоў. Пераконвае мяне, што нікога ніколі так не кахаў, як мяне, што толькі са мной адчувае сябе шчаслівым.

Нават я ведаю некалькі дзяўчат, што раней хадзілі з ім, а цяпер аж пішчаць, каб ён да іх вярнуўся.

Але мушу сказаць, што з маім хлопцам сітуацыя выглядае даволі складана. Ён вельмі прыгожы, а да таго ўмее абыходзіцца з жанчынай. Чуллівы, далікатны. Калі ён толькі дакранаецца да мяне, дастаткова было, каб палажыў мне руку на плечы, — па маім целе праходзілі дрыжыкі. Думаю, што таксама рэагавалі на яго іншыя жанчыны. Некаторыя аж плакалі, калі зразумелі, што ён па-сапраўднаму закахаўся ў кагосьці іншага.

Мне здаецца, што ён у даны момант зрабіў бы ўсё, калі б я толькі папрасіла. Не шкадуе ні грошай, ні часу для мяне. Гатоў зорку з неба зняць. Але...

У ложку ён паводзіць сябе даволі спецыфічна. Хаця (Сэрцайка прыняло гэту назву) „габарыты” ў яго салідныя, то ўвесь працэс кахання не трывае ў яго занадта доўга.

Усё добра, пакуль мы не ляжам у пасцель. Ён так умее распаліць чалавека, што даслоўна млею. Занясе мяне на руках у спальню. Распране, расшпіліць блузку па гузічках — і далей. Пасля распранецца сам. А тады ўжо толькі пад коўдру.

Я чакаю (гэтак паўтараецца кожны раз), што зараз пачнецца праўдзівая секс-навальніца, а тут якраз жа нічога з гэтага няма. Калі б хто ведаў, як усё выглядае магутна, калі ён яшчэ дакранаецца да мяне... А пасля — дальбог, забаўляемся не даўжэй мінуты — і канец. Часамі і мне ўжо добра, але найчасцей я не паспяваю за ім і тады мне вельмі прыкра і неяк млосна. Я злуюся, але мне нават не вельмі выпадае злавацца на яго: ён жа нават не мой муж.

Але вось ён пачынае пагаварваць аб шлюбе. А я ўжо пагарэла адзін раз, дык цяпер вельмі асцярожна падыходжу да гэтых спраў. Як ты думаеш, Сэрцайка, ці ён можа змяніцца?

**Вольга**

Вольга! Справы, пра якія ты пішаш, вельмі індывідуальныя ў тым сэнсе, што ў кожнага гэта адбываецца інакш. І неяк жа людзі жывуць адзін з другім. Іншая справа, што адны жывуць весялей, іншыя — сумней.

У тваім выпадку, думаю, вашы палавыя зносіны могуць наладзіцца пасля шлюбу. Стануць яны напэўна больш рэгулярныя, і гэта будзе спрыяць прадаўжэнню часу зносін.

Ну, а калі гэта не дапаможа, тады ёсць яшчэ лекар. Дык наперад!

**Сэрцайка**